БРЭСЦКАЯ АБЛАСНАЯ БІБЛІЯТЭКА імя М. ГОРКАГА
АДДЗЕЛ БІБЛІЯТЭКАЗНАЎСТВА




# «Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі»

## да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны

метадычныя рэкамендацыі

**Брэст, 2017**

«Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі»: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны: метадычныя рэкамендацыі

| | |
|---|---|
| Складальнікі: | Ю. М. Майкевіч<br>А. В. Пастыка |
| Рэдактары: | Л. К. Кароль<br>Л. І. Рачкоўская |
| Карэктары: | М. В. Новікава<br>Л. М. Саханчук<br>І. Р. Яраховіч |

«Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі»: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны : метадычныя рэкамендацыі / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага», Аддзел бібліятэказнаўства ; [склад. Ю. М. Майкевіч, А. В. Пастыка; рэд.: Л. К. Кароль, Л. І. Рачкоўская]. – Брэст, 2017. – 43 с.

224016, г. Брэст, б-р Касманаўтаў, 48
УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага»

Аддзел бібліятэказнаўства

8 (0162) 53 04 40

e-mail: brestrl@mail.ru

*...мы ўспомнім Францішка Скарыну,*
*што радзіўся калісь над Дзвіною,*
*вандраваў над яе берагамі,*
*што аправіў мужычую мову*
*ў неўміручы гнуткі пергамент.*

*Алесь Дудар*

## Ад складальнікаў

У 2017 г. Беларусь будзе адзначаць 500-годдзе айчыннага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання, якое было распачата ў 1517 г. дзякуючы дзейнасці Францыска Скарыны з Полацка. У сувязі з выключнай значнасцю спадчыны беларускага першадрукара для айчыннай, агульнаславянскай і ў цэлым еўрапейскай культуры ў 2017 г. запланавана вельмі насычаная праграма святкавання паўтысячагадовага юбілею беларускага кнігадрукавання. Шэраг навуковых, мастацкіх, адукацыйных і асветніцкіх мерапрыемстваў адбудзецца на міжнародным і рэспубліканскім узроўнях па ініцыятыве ЮНЕСКА, Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

«Ён — наш выток, гонар, вера», — так пішуць пра славутага на ўвесь свет беларускага першадрукара, перакладчыка, асветніка шматлікія мастацтвазнаўцы, крытыкі, паэты, празаікі ў сваіх творах.

Хто як не бібліятэка дапаможа чытачу знайсці менавіта той самы, цікавы для яго, твор, у якім ён зможа даведацца як мага больш пра вядомага земляка? Падчас святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання многія творы стануць асабліва актуальнымі. Увогуле бібліятэкі ў юбілейным годзе нараўне са школамі будуць імкнуцца ўзмацніць асветніцкую дзейнасць, каб стаць пэўным мастом да ведаў аб нашай гісторыі, аб вытоках нашай культуры, аб вядомых гістарычных асобах.

Асноўная мэта метадычных рэкамендацый «Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі»: да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны — дапамагчы бібліятэкару ў арганізацыі змястоўных мерапрыемстваў, прысвечаных дзейнасці і творчасці Францыска Скарыны.

Дадзеныя метадычныя рэкамендацыі ўключаюць наступныя матэрыялы:

**Частка 1.** «Парады да арганізацыі святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў публічных бібліятэках».

**Частка 2.** «Францыск Скарына — беларускі першадрукар: біяграфічныя звесткі». У гэтай частцы падаюцца матэрыялы аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны.

**Частка 3.** «Невядомы вядомы Скарына: сцэнарый літаратурнага вечара». У аснову сцэнарыя пакладзены малавядомыя факты з жыцця першадрукара.

**Частка 4.** «Палажэнне аб раённым (гарадскім) Конкурсе чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Францыска Скарыны». Акрамя палажэння тут прадстаўлены прыкладны пералік твораў і памятка па напісанні чытацкага водгуку, якія можна прапанаваць удзельнікам.

**Частка 5.** Гульня-віктарына «Францыск Скарына і яго час» з заданнямі для школьнікаў сярэдняга і старэйшага ўзросту. Таксама гульня-віктарына прапанавана і на электронным носьбіце для дэманстрацыі заданняў аўдыторыі.

**Частка 6 (прадстаўлена на кампакт-дыску).** «Гравюры першадрукара»: віртуальная выстава. У выставу ўвайшлі ўсе вядомыя гравюры, надрукаваныя ў выданнях Ф. Скарыны, з падрабязным апісаннем кожнай (іх можна выкарыстоўваць на выбар арганізатара мерапрыемства).

Звяртаем увагу бібліятэкараў на тое, што дадаткі, прадстаўленыя ў канцы рэкамендацый, з'яўляюцца дапаможнымі матэрыяламі для афармлення інтэр'ераў бібліятэк, для больш падрабязнага азнаямлення з эпохай Скарыны.

Спадзяемся, што метадычныя рэкамендацыі будуць карыснымі ў бібліятэчнай рабоце. Аднак дадзеныя разнастайныя формы мерапрыемстваў ніколькі не абмяжоўваюць творчасць самога бібліятэкара. Ён можа прапаноўваць і выкарыстоўваць іншыя віды інтэлектуальных мерапрыемстваў.

*Богу в троицы едному*
*ко чти и ко славе.*
*Матери его пречистой*
*Марии к похвале,*
*Всем небесным силам*
*и святым Его к веселию,*
*Людем посполитым*
*к доброму научению.*
*(Тытульны ліст кнігі «Іоў»)*

## Частка 1. Парады да арганізацыі святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў публічных бібліятэках

Першая кніга Ф. Скарыны пабачыла свет 6 жніўня 1517 г. Таму галоўнай тэмай (падзеяй) у 2017 г. у першую чаргу стане 500-годдзе з пачатку выдавецкай дзейнасці нашага першадрукара. Традыцыйна ў першую нядзелю верасня адзначаецца Дзень беларускага пісьменства, які ў 2017 г. пройдзе на Радзіме Ф. Скарыны ў горадзе Полацку і будзе прысвечаны гэтай знакавай даце. Але святкаванне 500-годдзя беларускага кнігадрукавання ў бібліятэках можна не абмяжоўваць дадзеным перыядам, а запрашаць чытачоў на розныя мерапрыемствы ўвесь год.

Таму канцэпцыя шэрага мерапрыемстваў павінна прадугледжваць адзінства друкаванага слова з гісторыяй і культурай беларускага народа, адлюстраванне гістарычнага шляху пісьменства і друку ў Беларусі. Мэта святкавання — даць магчымасць наведвальнікам звярнуцца да вытокаў нацыянальнай культуры беларускага народа, падкрэсліць цесную ўзаемасувязь і арганічнае адзінства славянскіх культурных традыцый.

Большасць мерапрыемстваў будзе прысвечана асобе нашага знакамітага першадрукара, але нельга выпусціць з віду і сучасную беларускую літаратуру.

Удзельнікам і гасцям можна прапанаваць пазнаёміцца з новымі кніжнымі выданнямі, сустрэцца з беларускімі і замежнымі літаратарамі, журналістамі, выдаўцамі, паслухаць выступленні творчых калектываў і выканаўцаў. Нельга абыйсці ўвагай і літаратараў-землякоў: правесці творчыя сустрэчы з прэзентацыямі новых кніг і літаратурна-мастацкіх кампазіцый па іх творчасці.

Традыцыйнымі будуць літаратурныя конкурсы, акцыі і інш. Напрыклад, можна арганізаваць «Конкурс чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны», прадстаўленых у даных рэкамендацыях.

Таксама гэты перыяд можа стаць вельмі спрыяльным для пачынаючых аўтараў, якія атрымаюць сваё першае прызнанне ў выглядзе дэбютнай публікацыі. Маладыя літаратары могуць прэзентаваць свае вершы ці прозу, магчыма, ужо выдадзеныя зборнікі. На фоне гэтага будзе цікава паглядзець і на маладзёжнае паэтычнае спаборніцтва «Літаратурны рынг».

Дзіцячай аўдыторыі прапануем стварыць выставу малюнкаў па матывах беларускіх народных казак «Новыя малюнкі да любімых кніг». Зацікавіць юных чытачоў і майстар-клас па вырабе самаробнай кнігі.

Пажадана падрыхтаваць для чытачоў мастацка-тэатралізаваныя дзеі па драматычных творах, прысвечаных Ф. Скарыне (*выкарыстаць урыўкі драматычных твораў з Часткі 4*). Нельга забываць і пра чытацкія канферэнцыі на самыя розныя тэмы: «Духоўныя пошукі сучаснай беларускай літаратуры», «Час. Юнацтва. Кнігі», «Свет паразумення кніжнага» і інш.

Неабходна выкарыстоўваць і новыя, прывабныя для моладзі формы масавай работы, якія будуць толькі павышаць цікавасць да чытання і заахвочваць да актыўнага ўдзелу ў мерапрыемствах. Гэта: экскурсіі па літаратурных мясцінах (у т. л. завочныя), прагляд экранізацый мастацкіх твораў з абмеркаваннем, балі літаратурных герояў, стварэнне віртуальных кампазіцый і да т. п.

Наогул, мерапрыемствы, запланаваныя да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, будуць садзейнічаць фарміраванню грамадзянска-патрыятычных і духоўна-маральных якасцей асобы, заснаваных на дзяржаўных і агульначалавечых каштоўнасцях, паважлівым стаўленні да нацыянальнай культуры, дзяржаўнай ідэалогіі, гістарычных традыцый беларускага народа.

Прапануем вашай увазе наступныя варыянты назваў мерапрыемстваў да святкавання 500-годдзя беларускага кнігадрукавання:

«Абы, научившися мудрости…»;
«Кніга, якую маеш чытаць»;
«Кнігі, якія ўзвышаюць душу»;
«Памяць... што ў стагоддзях не растала і ў часе не згасла»;
«Слаўны майстар з Полацка»;
«Праслаўлены стваральнік кніг»;
«Скарына... ён быў святым, да скону свяціцелем і мучанікам быў...»;
«Скарынаўскае сонца»;
«Друкар нястомны ў спадчыну пакінуў...»;
«Нашчадкі Скарыны»;
«Астральны знак Францыска»;
«Мой суайчыннік, продак мой — Скарына!»;
«Славуты доктар лекарскіх навук»;
«Францыск Скарына: асоба і час»;
«Жыццёвыя і творчыя пуцявіны беларускага першадрукара»;
«Зорка беларускай асветніцкай дзейнасці»;
«Імя, як дзіўны дарунак»;
«Шматвяковая гісторыя беларускага кніжнага друку»;
«Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга»;
«Першадрукар усходняга славянства»;
«Сусветная спадчына Францыска Скарыны»;
«Шляхамі Францыска Скарыны»;
«Доўгая дарога ад Францыска Скарыны да сучаснасці»;
«Жамчужыны беларускай гісторыі/літаратуры»;
«Беларусь. Кніга. Першыя»;
«Гісторыя застыла ў радках»;
«Народу посполитому…»;
«Вечныя дарогі і нястомныя пошукі»;
«Не многим учителем бывати, но более умети язык свой справовати»;
«Твой герб — злучэнне Месяца і Сонца — ні перад кім не выраню я з рук»;
«Марыў калісьці славуты Скарына, "ціснучы" кнігі на мове бацькоў».

## Частка 2. Францыск Скарына — беларускі першадрукар: біяграфічныя звесткі

На мяжы XIV–XV стст. у Італіі зарадзілася культура, названая пазней культурай Адраджэння. У яе аснове ляжала новае вучэнне пра чалавека — цудоўнага як духоўна, так і цялесна, вольнага, надзеленага розумам і творчымі здольнасцямі, пра чалавека, які з'яўляецца сапраўдным вянцом светабудовы. У пачатку XVI ст. гэтыя ідэі шырока распаўсюдзіліся і на землі Вялікага Княства Літоўскага са сваёй арыентацыяй на гуманізм, вальнадумства і патрыятызм. Гэта быў час росквіту ўсіх мастацтваў, у тым ліку і тэатра, і літаратуры, і музыкі, але, несумненна, галоўным сярод іх было выяўленчае мастацтва.

«У эпоху Адраджэння, — пісаў М. Багдановіч, — агульны разумовы ўздым, што пачаўся на Захадзе, паўплываў і на Беларусь. Крыніцай забіла тут жыццё, ішла, дзівосна пераплятаючыся, гарачая рэлігійная, нацыянальная і класавая барацьба, утвараліся брацтвы, што былі апорай беларускай народнасці, закладваліся тыпаграфіі, засноўваліся школы з нечакана шырокай, як на той час, праграмай (у некаторых вывучалі пяць моў), узнікалі вышэйшыя навучальныя ўстановы».

Вялікай з'явай эпохі Адраджэння стала кнігадрукаванне. Пачынальнікам еўрапейскага кнігадрукавання з'яўляецца немец Іаган Гутэнберг (1400–1468), які вынайшаў рухомыя металічныя літары і друкарскі станок. У 1438 г. Гутэнберг заснаваў друкарню ў Страсбургу, а ў

1447 г. у Майнцы пачаў рэгулярны выпуск невялікіх павучальных і папулярных твораў. Пасля гэтага друкарні пачалі адчыняцца ў Італіі (1465), Швейцарыі і Чэхіі (1468), Францыі (1470), Венгрыі (1473), Польшчы (1474). Першыя друкаваныя кнігі (інкунабулы, ад лац. Incunabula — «калыска», «пачатак»), выдадзеныя ў XV ст., сваім афармленнем яшчэ нагадвалі рукапісныя.

Канструкцыя друкарскага станка («праса») з пачатку XVI і да канца XVIII ст. не змянялася. Друкарскі станок прадстаўляе сабой масіўнае драўлянае збудаванне з дзвюма вертыкальнымі бакавымі апорамі, замацаванымі папярочнымі перакладзінамі. Вінт прыводзілі ў рух доўгім рычагом — «вагай», пры дапамозе якога аркуш прыціскаўся да друкарскай формы, пакрытай фарбай. Друкаванне патрабавала значных намаганняў майстра, таму апоры нярэдка мацаваліся распорамі да столі і вінтамі да падлогі. На выраб такога станка ішло каля 30 пудоў дубовай драўніны, 7–9 пудоў медзі і жалеза.

Кірылічнае кнігадрукаванне бярэ свой пачатак у 1491 годзе (Ш. Фіёль, Кракаў). Потым кнігі на кірыліцы з’явіліся ў Чарнагорыі (іераманарх Макарый, 1493–1495), Румыніі (1508–1512) і Венецыі (1510–1521). Пачынальнікам жа беларускага і ўсходнеславянскага кнігадрукавання з’яўляецца Францыск Скарына. Гэты асветнік-гуманіст, доктар медыцыны, арыгінальны мысліцель, пісьменнік-публіцыст, выдавец, перакладчык-паліглот — найбольш велічная постаць эпохі Адраджэння на Беларусі. Яго і сёння можна лічыць зоркай першай велічыні на небасхіле нашай нацыянальнай культуры.

Вялікі сын полацкай зямлі Францыск Скарына сканцэнтраваў у сабе з аднаго боку — усе дасягненні ўсходнеславянскай культуры, з другога боку — ён увасабляў сабою тып тытана эпохі Адраджэння. Яго можна параўнаць з такімі магутнымі постацямі, як Леанарда да Вінчы, Эразм Ратэрдамскі, Рафаэль. Сваім жыццём і дзейнасцю ён падвёў своеасаблівы вынік развіцця ўсходнеславянскай культуры за пяць стагоддзяў, што прайшлі ад прыняцця хрысціянства, і даў новы напрамак, які арыентаваўся на агульначалавечыя каштоўнасці.

Ф. Скарына нарадзіўся ў сям’і полацкага купца Лукаша Скарыны, які вёў гандаль у многіх гарадах Вялікага Княства Літоўскага і іншых краін. Бацька Лука і старэйшы брат Іван гандлявалі каштоўным для таго часу таварам — скурай, матэрыялам, які ішоў на адзенне, абутак, збрую, ад назвы якога (старажытны варыянт «скора»), верагодна, і пайшло іх прозвішча. Дзейнасць купцоў у часы Скарыны патрабавала ведаў, прадпрымальнасці і адвагі. У купецкім доме жыло адчуванне шырыні свету, разуменне карыснасці повязяў чалавека з чалавекам, асобы з грамадствам, з народам, з прыродай. Каб весці гандаль у замежных краінах, неабходна было ведаць мовы, звычаі і законы чужых дзяржаў. Расказы пра небяспеку далёкіх дарог, экзотыку зямель, звычаяў у розных гарадах склалі духоўную атмасферу дзяцінства Ф. Скарыны.

Дата яго нараджэння дакладна невядомая: 1486 або 1490 г. Дзень 6 сакавіка 1486 г. запомніўся жыхарам Полацка незвычайнай з’явай. Ранішняе сонца раптам пачало засланяцца цемраю. У будучым Скарына амаль на кожнай сваёй гравюры друкуе аднолькавы герб — асабістую манаграму. Як мяркуе беларускі мастацтвазнавец і гісторык М. Шчакаціхін, Скарына адлюстраваў у ім сонечнае зацьменне, якое адбывалася над тэрыторыяй Беларусі ў 1486 г. Таму можна зрабіць вывад: герб сімвалізуе год нараджэння беларускага першадрукара.

Сталенне Скарыны супала з адваёвай палачанамі ў 1498 г. Магдэбургскага права. Акрамя таго, Полацк быў ядром, вакол якога ў часы Скарыны гуртавалася беларуская народнасць, умацоўвалася нацыянальная свядомасць, расцвіталі грамадзянскія пачуцці, перш за ўсё патрыятызм.

Каб заняцца навукай, Скарыне неабходна было авалодаць граматай, засвоіць латынь — тагачасную мову адукаваных людзей. Пачатковую адукацыю хлопчык, відаць, атрымаў у школе пры бернардзінскім манастыры ў Полацку ці ў сталічнай Вільні. Мяркуюць таксама, што першапачаткова Скарына вучыўся чытаць і пісаць у доме бацькоў. Атмасфера купецкага дому абудзіла ў яго ахвоту да пазнання свету, розных навук, таямніц прыроды.

У зімовы семестр 1504 г. Скарына ў ліку васьмі юнакоў з полацкага біскупства адпраўляецца ў Кракаў і паступае там на філасофскі факультэт (свабодных навук) Кракаўскага ўніверсітэта — адной са старэйшых і лепшых навучальных устаноў Еўропы, дзе вывучае так званыя свабодныя навукі. Праз два гады ён атрымлівае першую вучоную ступень бакалаўра

філасофіі, а потым доктара вызваленых навук (artium), якая давала права насіць пярсцёнак-пячатку і выкладаць рыторыку ў звычайных школах.

Пасля вучонага трыумфу ў Італіі звесткі пра Скарыну зноў губляюцца ажно да 1512 г. За 1507–1511 гг. дакладных звестак пра Скарыну няма: хутчэй за ўсё, ён вывучаў медыцыну ў нейкім заходнім універсітэце, бо ў Падуі ён ужо магістр — значыць, у гэты перыяд ён і атрымаў навуковую ступень.

У 1512 г. у Падуанскім універсітэце знакаміты палачанін бліскуча здае экстэрнам экзамен на званне доктара медыцыны. На той час Італія, у тым ліку буйны ўніверсітэцкі горад Падуя, — цэнтр гуманізму і адраджэнскай культуры.

Далейшыя факты паказваюць, што Скарына пакінуў медыцыну і звярнуўся да грамадскіх праблем і гуманітарных навук. Магчыма, ён вучыўся друкарскай справе ў Дакіі (тэрыторыя цяперашняй паўднёвай Румыніі), дзе тады існавала славянская друкарня. Затым Скарына вяртаецца на радзіму. Пазней заручыўшыся падтрымкай і грашовай дапамогай Віленскага бурмістра Якуба Бабіча і мецэната Багдана Онькава, а таксама Івана Скарыны і Юрыя Адзверніка, паехаў у Прагу — цэнтр тагачаснай культуры і акультызму. На атрыманыя грошы ён стварае ў Празе друкарню, дзе выдае на працягу 1517–1519 гг. на старабеларускай мове 23 ілюстраваныя кнігі Старога Запавету. Для гэтых выданняў Скарына выкарыстаў яўрэйскія, лацінскія, чэшскія, грэчаскія і царкоўна-славянскія тэксты, якія ён адрэдагаваў, пракаментаваў, пераклаў на старабеларускую мову пад агульнай назвай «Біблія Руска, выкладзеная доктарам Францыскам Скарынай са слаўнага града Полацка...» і падрыхтаваў да выдання.

Першая кніга Скарыны «Песни царя Давыда еже словуть Псалтыр» (або «Псалтыр») пабачыла свет 6 жніўня 1517 года. З гэтай кнігі пачынаецца гісторыя ўсходнеславянскага кнігадрукавання. За 500 гадоў, што мінулі з часоў выдання першай Скарынавай Бібліі, ягоныя кнігі разляцеліся па свеце. Самыя знакамітыя бібліятэкі лічаць за гонар мець скарынаўскія выданні: сёння захавалася 388 кніг — шэдэўраў друкарства.

У сваіх пражскіх выданнях Скарына ўпершыню ўвёў прамежкі між словамі і водступы-абзацы. Адмовіўся ўраджэнец Полацка і ад скарачэння слоў. Усяго да пражскіх выданняў Скарынай была заказана 51 ілюстрацыя, пераважная большасць якіх змешчана на тытульных лістах кніг, каля 30 заставак і каля 1 000 ініцыялаў.

Паўстае пытанне: чаму Скарына выдаваў свае кнігі ў Празе — сталіцы Чэхіі? Магчыма, яго прывабліваді чэшскія друкарні, якія славіліся на ўсю Еўропу; магчыма, мелі значэнне трывалыя сувязі паміж ВКЛ і Чэхіяй. Можа быць, яго прыцягвала сюды ўвогуле надзвычай высокая культура чэхаў. Дзейнасць у Празе з'яўляецца самым плённым перыядам у біяграфіі Скарыны.

З 1519 г. звесткі пра Скарыну зноў адсутнічаюць аж да з'яўлення яго выданняў у Вільні. Каля 1520 г. Скарына вяртаецца ў Вільню. Тут ён ажаніўся і палепшыў сваё матэрыяльнае становішча. У сталіцы Вялікага Княства Літоўскага сын Лукі Скарыны абсталяваў друкарню ў камяніцы Якуба Бабіча, пракаментаваў, адаптаваў і ў 1522 годзе выдаў на царкоўна-славянскай мове «Малую падарожную кніжыцу» (уключала Псалтыр, Часасловец, Шасцідневец, восем акафістаў, дзесяць канонаў, Саборнік, «Святцы» і «Пасхаліі», утрымлівала розныя астранамічныя і каляндарныя звесткі) і «Апостал» (новазапаветную кнігу, у якой змешчаны пасланні апосталаў). Да кожнага апостальскага паслання Скарына даў уласную прадмову і пасляслоўе, апрацаваў мову свайго выдання, замяніў многія незразумелыя царкоўна-славянскія словы і выразы на беларускія.

У Вільні беларускі першадрукар служыў прыдворным лекарам і сакратаром у віленскага каталіцкага біскупа, магчыма прымаў удзел у стварэнні Статута 1529 года. З братам Іванам Скарына займаўся камерцыйнымі справамі. Невыносна цяжкім аказаўся для Скарыны 1529 год: памёр яго брат Іван, затым жонка Маргарыта, пакінуўшы на руках Скарыны малога сына Сымона. Яе родзічы пачалі адсуджваць у Скарыны маёмасць. Крэдыторы брата таксама патрабавалі ў яго грошы.

У 1530 г. па запрашэнні герцага Альбрэхта Скарына едзе ў Кёнігсберг. У 1534 ці 1535 г. — выехаў у Прагу. Такім чынам, на шляху вялікага асветніка хапала жыццёвых нягод. З

1535 г. ён працуе ў батанічным садзе чэшскага караля Фердынанда каралеўскім батанікам (стаў адным з заснавальнікаў старэйшага батанічнага рэнесансавага саду ў цэнтральнай Еўропе — у Празе на Градчанах). Пражскія гады жыцця Скарыны прайшлі даволі спакойна. У Празе ён займеў і пэўную маёмасць, якая перайшла да яго сына. З 1541 г. звесткі пра Скарыну адсутнічаюць. Дата смерці яго таксама дакладна невядомая. Мяркуюць, што Скарына памёр у Празе (у 1552 г. у Прагу прыязджаў яго сын Сымон за бацькавай спадчынай).

Выдадзеная Скарынай у Празе на старабеларускай мове «Біблія Руска» (1517–1519) падштурхнула многіх яго суайчыннікаў да пашырэння культуры і асветы свайго народа праз друкаваную кнігу, у тым ліку на роднай мове. Першая друкарня на тэрыторыі сучаснай Беларусі была адкрыта ў Брэсце. З'яўленне тут друкарскага станка ў пачатку 50-х гг. XVI ст. звязана з імем мясцовага старасты Мікалая Радзівіла Чорнага. Яго друкарня выдала каля 40 кніг, сярод якіх славутая Брэсцкая, ці, як яе яшчэ называюць, Радзівілаўская Біблія. Яна ўяўляе сабою «вялізную, памерам на аркуш, кнігу таўшчынёй у 10 сантыметраў, у 738 старонак, мае два гравіраваныя тытульныя лісты, 14 гравюр-ілюстрацый, своеасаблівыя застаўкі і віньеткі… Упершыню за гісторыю выдавецкай справы на Беларусі змешчаны прадметны паказальнік. На адвароце апошняга ліста паведамляецца, што кніга гэта надрукавана ў Брэсце Літоўскім за кошт князя Нясвіжа, віленскага ваяводы, маршалка і канцлера Вялікага Княства Літоўскага Мікалая Радзівіла месяца верасня чацвёртага дня 1563 г.» (В. Нікалаеў).

У выніку сказанага патрэбна адзначыць, што жыццёвы шлях Скарыны ўласцівы людзям эпохі ранняга Адраджэння. Прыйшоўшы на гэту зямлю, каб зрабіць саміх сябе, яны перш за ўсё ўпрыгожылі яе сваімі добрымі дзеяннямі.

Пачаўшы купецкую дзейнасць з жадання разбагацець, Францыск Скарына захапляецца новай для сябе і для ўсходніх славян справай — друкаваннем кніг. І каб быць упаравень з новай задачай, ён літаральна адукоўвае сябе: становіцца гуманістам, асветнікам, арыгінальным мысліцелем і перакладчыкам.

Калі на небе запальваюцца зоркі ў гонар людзей, нарадзіўшыхся на зямлі, то адной з самых яркіх сярод іх будзе зорка Скарыны.

# Храналагічная канва жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны

| Дата | Дзея |
|---|---|
| Другая палова 1480-х | У Полацку ў сям'і беларускага купца Лукі Скарыны нарадзіўся сын Францыск |
| 1498 | Полацк атрымлівае Магдэбургскае права (самакіраванне) |
| 1504 | Францыск Скарына вучыцца ў Кракаўскім універсітэце. У матрыкульных кнігах універсітэта робіцца запіс: «Franciscus Luce de Ploczko» (Францыск сын Лукі з Полацка) |
| 1506 | Францыск Скарына ўдастоены вучонай ступені бакалаўра вольных мастацтваў |
| Канец першага дзесяцігоддзя 1500-х – пачатак 1510-га | Францыск Скарына атрымлівае званне ліцэнцыята медыцыны і ступень доктара вольных мастацтваў |
| 1512, 5 лістапада | Савет дактароў медыцынскай калегіі Падуанскага ўніверсітэта ў Італіі дапусціў «неимущего» Францыска Скарыну без аплаты да экзамену на ступень доктара медыцыны |
| 1512, 6 і 9 лістапада | Францыск Скарына бліскуча вытрымаў экзамен на ступень доктара медыцыны |
| Каля 1517 | У Празе пачынае работу друкарня, заснаваная доктарам Францыскам Скарынай |
| 1517, 6 жніўня | У Празе выходзіць з друку першае выданне Францыска Скарыны – Псалтыр. Тут жа, у Празе, Скарына выдае перакладзеныя ім кнігі: |
| 1517, 10 верасня | «Кнігу Іова», |
| 1517, 6 кастрычніка | «Прытчы Саламона», |
| 1517, 5 снежня | «Кнігу Ісуса Сірахава», |
| 1518, 2 студзеня | «Эклезіяст, або Саборнік», |
| 1518, 9 студзеня | «Песню песняў», |
| 1518, 19 студзеня | «Кнігу прамудрасці боскай», |
| 1518, 10 жніўня | «Кнігі Царстваў», |
| 1518, 20 снежня | «Кнігу Ісуса Навіна», |
| 1519, 9 лютага | «Кнігу Іюдзіф», |
| 1519, 15 снежня | «Кнігу Суддзяў», |
| 1519 | «Кнігу Быццё», |
| каля 1519 | «Кнігу Зыход», |
| каля 1519 | «Кнігу Левіт», |
| каля 1519 | «Кнігу Лічбы», |
| каля 1519 | «Кнігу Другі закон», |
| 1519 | «Кнігу Руф», |
| 1519 | «Кнігу Эсфір», |
| 1519 | «Кнігу Плач Іярэміі», |
| 1519 | Францыск Скарына друкуе сваё апошняе пражскае выданне — «Кнігу прарока Данііла» (пераклад Ф. Скарыны) |
| Пачатак 1520-х | Францыск Скарына пераязджае ў Вільню і ў доме «шаноўнага мужа Якуба Бабіча, найстаршага бурмістра слаўнага і вялікага места Віленскага», засноўвае новую друкарню. Гэта была першая друкарня на тэрыторыі нашай краіны |
| Каля 1522 | Выйшла ў свет першае віленскае выданне Францыска Скарыны — «Малая падарожная кніжыца», якое паклала пачатак кнігадрукаванню ў нашай краіне |

| | |
|---|---|
| 1525, сакавік | У Віленскай друкарні выйшаў у свет «Апостал» — апошняе выданне Францыска Скарыны |
| Другая палова 1520-х | Францыск Скарына ажаніўся з удавою члена Віленскага магістрата Юрыя Адверніка — Маргарытай |
| 1529, ліпень | У Познані памёр брат Францыска Скарыны Іван, віленскі купец, гандляр скурамі, які прыехаў са сваім таварам на кірмаш. Францыск едзе ў Познань, каб дабіцца вяртання сродкаў, якія ўклала яго жонка Маргарыта ў гандлёвую справу брата |
| 1529, ліпень – кастрычнік | У познаньскім судзе тройчы разбіраецца справа аб атрыманні Францыскам Скарынай і яго жонкай укладзеных у гандлёвую справу брата сродкаў. У выніку пасля прадстаўлення пісьмовай даверанасці, змацаванай 16 кастрычніка 1529 г. пячаткаю г. Вільні, па рашэнні суда Скарыне павінны былі быць вернуты 23 500 скур для яго жонкі і 2 500 яму асабіста |
| 1530 | Скарына пэўны час служыць у прускага герцага Альбрэхта Старэйшага ў Кёнігсбергу. 16 мая 1630 г. герцаг выдае Скарыне прапускную грамату ў Вільню, дзе засталася сям'я «доктара Францыска», а потым падпісвае пасланні віленскаму ваяводзе, вялікаму канцлеру Літоўскаму Гаштольду з просьбай аказаць усялякае садзеянне «многавучонаму мужу», а таксама віленскаму магістрату — з просьбай вярнуць Скарыне канфіскаваную маёмасць |
| 1530 | Францыск Скарына вяртаецца з Кёнігсберга ў Вільню. Разам з ім пакідаюць Кёнігсберг асабісты лекар герцага і друкар, якія паехалі са Скарынай па яго запрашэнні без ведама герцага |
| 1532, 5 лютага | Па каралеўскім дэкрэце ад 5 лютага 1532 г. крэдытары памёршага брата Францыска Скарыны — Івана дамагліся арышту Францыска за даўгі нябожчыка. Францыск Скарына, які прыехаў у пачатку сакавіка ў Познань, быў пасаджаны ў познаньскую турму |
| 1532, 24 мая | Пляменнік Скарыны Раман дабіваецца ў караля Жыгімонта I загаду аб вызваленні Францыска з турмы і ад судовага праследавання за даўгі брата |
| 1532, 17 чэрвеня | Францыск Скарына, сакратар і асабісты лекар віленскага біскупа Яна, падае прашэнне, патрабуючы аплаты страт, прычыненых яму крэдыторамі брата, у суме 6 000 злотых |
| 1532, 21 лістапада | Кароль Жыгімонт I спецыяльнай граматай вызваляе Францыска Скарыну з-пад улады суда, ваяводаў, кашталянаў і стараст |
| 1535, 4 кастрычніка | Імя Францыска Скарыны апошні раз сустракаецца ў беларускіх дакументах |
| Каля 1535 | Францыск Скарына пераязджае ў Прагу, дзе служыць асабістым лекарам і вучоным-садоўнікам караля Фердынанда |
| 1540-я | У Празе памірае доктар Францыск Скарына «са слаўнага горада Полацка» |

## Частка 3. «Невядомы вядомы Скарына»
## *(сцэнарый літаратурнага вечара)*

**Падрыхтоўчыя моманты**

*На сцэне: вялікімі літарамі — назва літаратурнага вечара.*

*Удзельнікі: два вядучыя, адзін або некалькі чытальнікаў.*

*Музычнае суправаджэнне: славянскія ці беларускія матывы, якія змогуць лепш адлюстраваць эпоху жыцця і дзейнасці Францыска Скарыны.*

*Афармленне сцэны (на выбар арганізатараў): літары старабеларускай мовы; партрэты першадрукара; выявы Полацка, Падуі, Прагі, Кракава ці геаграфічная карта Еўропы з адметкамі гарадоў, звязаных з яго дзейнасцю; копіі гравюр Ф. Скарыны ці дэманстрацыя мультымедыйных прэзентацый «Невядомы вядомы Скарына» і «Гравюры першадрукара»); выставы кніг (самых маленькіх, самых старых з фондаў бібліятэкі, прысвечаных Скарыне і яго часу і г. д.), прыкладныя назвы якіх прапанаваны ў Раздзеле 1; творчыя работы чытачоў (малюнкі, скульптуры, выцінанкі, водгукі на Конкурс [Раздзел 3]).*

*Абсталяванне (на выбар арганізатараў): праектар, экран, ноўтбук, выставачныя стэлажы і сталы, геаграфічная карта, мікрафоны, апаратура для музычнага суправаджэння.*

*У сцэнарыі прапануюцца для арганізатараў (чытальнікаў) варыянты вершаў на выбар.*

**Вядучы 1.** Добры дзень, паважаныя госці. Гэты год выдаўся для беларускага кнігадрукавання асаблівым, юбілейным. Гэта год 500-годдзя з дня выхаду ў свет першай друкаванай кнігі на нашай роднай мове, калі з вуснаў кожнага беларуса не павінна зыходзіць адно імя — імя, напэўна, самага вядомага і знакамітага на ўвесь свет беларуса — Францыска Скарыны. Менавіта яго талент дазволіў сёння з гонарам казаць — першая кніга на землях усходніх славян — наша!

**Вядучы 2.** Але мы заўсёды паўтараем адны і тыя ж словы, калі ўспамінаем аб асобе нашага першадрукара: нарадзіўся ў Полацку, вучыўся ў Кракаве і Падуі, першую кнігу надрукаваў у Празе, затым жыў у Вільні. Але ці так усё проста было ў жыцці нашага асветніка? Можа былі і цікавыя, часам загадкавыя моманты? Давайце сёння ўспомнім тыя фрагменты з жыцця Францыска Скарыны, аб якіх мала калі ўспамінаюць, але і яны дастойныя не меншай увагі. Дык вось, пачнём.

***<u>Адкуль прозвішча?</u>***

**Вядучы 1.** Як вы думаеце, адкуль пайшло прозвішча першадрукара? Існуюць розныя меркаванні адносна паходжання. Сам Францыск Скарына ў сваіх акафіст-акравершах называў сябе Скарынічам. Фінальная частка «-іч» паказвае, што Скарыніч — гэта нашчадак чалавека па імені Скарына.

**Вядучы 2.** Паводле адной з версій, першапачаткова імя Скарына магло быць дадзена рамесніку, які займаўся вырабам скур на мяхі. Чалавек, які апрацоўваў скуры, у рускай мове называецца кушнер («скорняк»), а ў старабеларускай мове — скорникъ. Таму ёсць меркаванне, што такое прозвішча як Скарына бярэ свой пачатак ад родапачынальніка, які, верагодна, быў кажэўнікам, а яго нашчадкі разбагацелі і сталі займацца гандлем. А як мы ведаем, бацька Францыска Лукаш менавіта гэтым і зарабляў на жыццё.

**Вядучы 1.** Па другой версіі, прозвішча Скарына ўтварылася ад аднайменнага старажытнага слова «скарына», якое ў старабеларускай мове, як і ў сучаснай (скарынка, корка) азначала «цвёрды вонкавы пласт хлеба, пірага»: «...коли муку житную у хлебе спекут, то тесто печеное солодко, а за скорину хотя ложки клади а в печи не печется...» (Баркалабаўскі летапіс).

**Вядучы 2.** Згодна з трэцяй версіяй прозвішча Скарына з’яўляецца скарочаным варыянтам ад поўнага старажытнага славянскага імя «Скорислав». Сапраўды, у сучасных паўднёваславянскіх мовах — сербскай, славенскай — і зараз сустракаецца імя Скарыслаў і яго скарочаныя варыянты Скарыша, Скарота і інш. Аднак усе гэтыя версіі застаюцца толькі версіямі і патрабуюць дадатковага даследавання.

**Вядучы 1.** Сёння ў нас з вамі ёсць магчымасць пачуць цудоўныя вершы, прысвечаныя Ф. Скарыне.

**Чытальнік.**

| | |
|---|---|
| **Ларыса Геніюш. Скарына (урывак)**<br>Над Падуяй неба такое наўкруг,<br>як сны мастакоў Адраджэння.<br>Падуя — горад вялікіх навук,<br>славутых падзей і імкненняў.<br><br>Заціхлі званы, адбылася імша,<br>йзноў спевы гучаць на лаціне.<br>Дыплом уручаюць: ён, сын Лукаша,<br>палачанін, Францішак Скарына...<br><br>Даўно ўжо пакінуў свой меч, і свой лук,<br>і Полацк, лясамі акружаны,<br>выйшаў насустрач свабодных навук,<br>па-свойму сільны і мужны.<br><br>Ужо доктар навукі пад сілу яму.<br>З Падуі слаўнай, з чужыны,<br>вязе Беларусі, народу свайму<br>жыццё сваё, знанні і імя.<br><br>Не князь і не шляхціц, без дворні і слуг,<br>праз пушчы, мядзведжыя тропы<br>вяртаецца доктар медычных навук,<br>першы доктар на ўсходзе Еўропы.<br>. . . . . . . .<br>Толькі навукі, паны над зямлёй,<br>мовяць мовамі розных чужынаў.<br>І першую кнігу на мове сваёй<br>друкуе нашчадкам Скарына.<br>. . . . . . . .<br>Мудрасць здолее ў цемры свяціць.<br>Загад продкаў у сэрцах не згіне!<br>Будзем думаць, вучыцца: тварыць<br>так, як ты,<br>у сваёй мове,<br>Скарына. | **Кастусь Жук. Францішку Скарыне**<br>Далёкіх часоў успаміны,<br>Твой воблік світае ў прасторы...<br>– Дзень добры, Францішак Скарына,<br>Памкненням светлым дзень добры!<br><br>Ты сэрцам прачулым і вешчым<br>Клікаў народ на сустрэчу<br>Са словам яго, чалавечым,<br>Якому суджана вечнасць.<br><br>Вайну абвясціўшы цемры,<br>Невуцтву<br>ў краі родным, –<br>Да ведаў ішоў ты цераз<br>Замежных дзяржаў вароты.<br><br>Хіліла да кнігі – прага,<br>Перад народам павіннасць.<br>З табой віталася – Прага,<br>Чырванабровая Вільня.<br><br>Гляджу<br>праз гады нябыту<br>Туды, дзе ты ўзважваў пралікі,<br>Карпеў, бакалаўр знакаміты,<br>Тварыў, доктар вялікі, –<br><br>Стаіш<br>ля раскрыленай кнігі,<br>Свае запаволіўшы рухі...<br><br>. . . . . . . .<br>....Сплываюць гады, як крыгі,<br>Нашчадак быліннай Нямігі, –<br>Чытаю твае першадрукі. |
| **Алесь Дудар. Скарына**<br>Не люблю, калі з роднай краіны<br>птушкі рвуцца ў далёкі вырай…<br>Я ўспомніў Францішка Скарыну,<br>што ў Полацку княжацкім вырас.<br>Ўжо няма такіх настрояў,<br>як былі калісь даўно, — | О, Францішак… Францішак Скарына,<br>што над гранкай друкарскаю гнуўся!..<br>Ведай, праца твая пакарыла<br>новы свет для сівой Беларусі!<br>Бо сягоння спяваюць баяны, |

| | |
|---|---|
| бо сягоння над новай Дзвіною<br>перакінуўся новы мост.<br>Што Дзвіна!.. Для яе ўсё роўна,<br>хто пяе над яе берагамі.<br>Не яна мужычую мову<br>аправіла ў гнуткі пергамент. | бо ўжо разгарнуліся крыллі…<br>Перамогі вяселлем п'яныя,<br>мы ўспомнім Францішка Скарыну,<br>што радзіўся калісь над Дзвіною,<br>вандраваў над яе берагамі;<br>што аправіў мужычую мову<br>ў неўміраючы гнуткі пергамент. |

***<u>Георгій ці Францыск?</u>***

**Вядучы 1.** Існуе цікавы факт — некаторы час лічылася, што Скарыну на самой справе звалі Георгіем. Продкі і бацькі Скарыны згодна веравызнанню былі праваслаўнымі. Таму можна меркаваць, што і Францыск Скарына быў ахрышчаны паводле праваслаўнага абраду і атрымаў адпаведнае грэка-славянскае імя, якога, на жаль, мы не ведаем. Пэўны час, на працягу XX ст., у навуковай літаратуры можна было сустрэць імя Георгій Скарына.

**Вядучы 2.** Некаторыя навукоўцы выказвалі здагадкі, што гэтае імя і з'яўляецца пачатковым праваслаўным хрысціянскім імем беларускага першадрукара. Упершыню аб гэтым сталі казаць пасля таго, як у 1858 г. былі апублікаваныя копіі 2-х грамат караля Сігізмунда I на лацінскай мове. У адной з іх перад імем першадрукара ёсць лацінскі прыметнік *egregium* у значэнні «выдатны, знакаміты», у другім значэнні слова *egregium* было падана як *georgii*. Гэта форма для некаторых даследчыкаў і стала асновай лічыць, што сапраўднае імя Скарыны было Георгій.

**Вядучы 1.** І толькі ў 1995 г. беларускі гісторык і кнігазнавец Георгій Галенчанка знайшоў арыгінальны тэкст прывілея караля Сігізмунда, у якім гэты фрагмент быў размешчаны наступным чынам: «…egregium Francisci Scorina de Poloczko artium et medicine doctoris». Памылка перапісчыка вызывала спрэчкі вакол імя першадрукара больш за 100 гадоў. І нават зараз дэбаты ўсё ж такі вядуцца.

**Вядучы 2.** А вось імя Францыск было дадзена Скарыне ў адпаведнасці з каталіцкім календаром. Мяркуюць, што паўторна Скарына мог быць ахрышчаны як каталік яшчэ ў родным горадзе манахамі-бернардзінамі. Зараз можна сустрэць два варыянты імя — Францыск і Францішак. У сувязі з гэтым паўстае пытанне: які з варыянтаў адпавядае праўдзе? Атрымаць адказ на вышэйзгаданае пытанне дапамагаюць скарынаўскія выданні, у якіх Скарына больш за 100 разоў ужывае імя «Францыск», зрэдку — «Францішак». А вось у актах Вялікага Княства Літоўскага на лацінскай мове беларускага першадрукара называюць «Franciscus», на старабеларускай — «Франъцышак», «Франъцышъко».

**Чытальнік.**

| **Генадзь Бураўкін. Скарына (урывак)** | **Пятрусь Броўка. Беларусь (урывак. Ч. 4)** |
|---|---|
| . . . . . . .<br>Шмат я па свеце прайшоў, шукаючы ўдачу,<br>Многа пабачыў.<br>Ды вочы былі сухія.<br>А тут<br>міжволі ўсцешна плачу,<br>Ледзьве здалёку ўгледжу купал Сафіі.<br>Мне віначэрпіі Падуі, Кракава, Прагі<br>З сонечным сокам кубкі падносілі залатыя,<br>Ды не маглі паталіць яны смагі<br>Так, як звычайны карэц, | Яшчэ ў дні старыя, у век наш лучынны,<br>Аб горадзе Полацку слава ішла, —<br>Друкар там выдатны Георгій Скарына,<br>Што зоры, рассыпаў па роднай краіне<br>Крыштальныя словы навукі-святла;<br><br>Нямала народаў з крыніц яго піла<br>І брала ад мудрасці вечны агонь,<br>У літарах першых знаходзячы сілу…<br>Ты слаўна, зямля, што вякам |

| | |
|---|---|
| калі чэрпну маёй Палаты<br>я.<br><br>Мне саладзейшыя самыя<br>ветры з Дзвіны<br>баравыя<br>І плытагонскіх кастроў паўночны<br>куродым.<br>Калі ў далёкіх краях на мяне заяўлялі<br>правы,<br>Я<br>Паўтараў, што са слаўнага Полацка родам.<br>Ты мне, мой горад, даруй,<br>што ціхае імя<br>Францішак<br>Я памяняў на нянаскае, гучнае імя Георгій,<br>Радзімы ж сваёй не мяняў, як нацельны<br>крыжык.<br>Ад мовы сваёй не адрокся ні ў шчасці,<br>ні ў<br>горы.<br>Мэту маю і надзею, пакуту маю і трывогу,<br>–<br>З літар, як з кропелек поту, збіраў я свае<br><br>першадрукі<br>Не для цароў венцаносных, абраннікаў<br>бога,<br>А для цябе,<br>светласэрцы мой люд чарнарукі.<br>. . . . . . . . | нарадзіла<br>Такога выдатнага сына свайго!<br><br>На грудзях тваіх, як скарбніцы<br>жывыя,<br>Чалом выплываючы з даўняй імглы,<br>Стаяць Гарадзенскія гмахі сівыя,<br>Муры Навагрудчыны, вежы Сафіі<br>І замкаў Заслаўя крутыя валы.<br><br>Аб славе народнай гамоняць зарніцы,<br>А думы яго захавалі ў сабе,<br>Як чыстыя перлы, азёры, крыніцы,<br>І неба вясёлкамі імі іскрыцца,<br>Што шлях асвятляюць яму ў<br>барацьбе… |

***<u>«Малая падарожная кніжыца»</u>***

**Вядучы 1.** Не меней загадкавай з’яўляецца і дата выхаду адной з апошніх, але і адной з самых значных кніг Скарыны. Лічаць, што «Малую падарожную кніжыцу», у якую ўвайшлі «Псалтыр», «Акафісты і Каноны», «Шасціднеў», ён выдае каля 1522 г. у Вільні. Што ж у ёй такога асаблівага і чаму каля 1522 г.? Вядомы літаратуразнавец Адам Мальдзіс дасканала даследаваў гэтае выданне і пісаў аб ім наступнае: «Во-первых, это первая “карманная книга”, если не в мире вообще, то в славянских странах уж точно. До этого издания Библии и Евангелия были куда большими по размеру, ибо предназначались для службы у алтаря, являлись напрестольными. …Общий книжный лист ко всей книге не известен — не сохранился, а может, его и не было, ибо издание состоит из 22 частей…

**Вядучы 2.** Во-вторых, “Малая подорожная книжка” куда демократичнее по своему адресату. Она рассчитана не столько на духовенство и магнатов, сколько на тогдашнее третье сословие — купцов, “студиозусов”, рыцарей, путешественников. Она изнашивалась в пути, и поэтому сохранилось куда меньше её экземпляров… Полных изданий нет вообще. Сегодня известно (…) только семь более или менее полных экземпляров — шесть в библиотеках и музеях Москвы и Петербурга и один — в Королевской библиотеке в Копенгагене — наиболее полный.

**Вядучы 1.** И, наконец, едва ли не самое важное: …“Малая подорожная книжка” издана в Вильно в 1521 году! Теперь же её выход обтекаемо датируется — “около 1522 года”. Но давайте сопоставим факты. В 1519 году Скорина ещё издаёт в Праге книги

Библии (…). В 1520 году он (…) возвращается в Великое Княжество Литовское, в Вильно… (…) “Около 1522 года” здесь выходит из-под печатного станка, несомненно, новаторская и прибыточная “Малая подорожная книжка”. Но календарь в найденных в Копенгагене “Пасхалиях” включает святцы на 1522 год! Какой смысл делать это довольно рационалистическому Скорине в 1522 году или в более позднее время?! Вывод напрашивается один: ровно 490 лет назад наш первопечатник, распаковав оборудование и проверив его в действии на новом месте, уже приступал или приступил к изданию первой книжки на территории общей державы…» (*Канец цытаты*). Канечне, гэта толькі здагадкі, але яны вельмі цікавыя і дастаткова пераканаўчыя, на нашу думку.

**Чытальнік.**

| **Ніл Гілевіч. Мара Скарыны** | **Максім Багдановіч. Кніга** |
|---|---|
| Марыў калісьці славуты Скарына,<br>«Цiснучы» кнігі на мове бацькоў:<br>Простаму люду ў роднай краіне<br>Зробіць даступнай ён мудрасць вякоў.<br><br>Толькі радзіму сваю ў ліхалецці<br>Мара яго абляцець не магла:<br>Білася роспачна птушкай у клетцы,<br>Вочы ж бядоты сляпіла імгла.<br><br>Думалі: згіне, як статак, нямое<br>Племя пакорнае ў вечным ярме.<br>Колькі іх – мужных, што матчынай мове<br>Шлях пракладалі і змёрлі ў турме!..<br><br>Ды разгулялася плынь веснавая –<br>Змыла пакутнай няволі сляды,<br>І ўстрапянулася мара жывая,<br>І абляцела ўвесь край малады!<br><br>Сталі даступнымі простаму люду<br>Мудрасці скарбы са свету ўсяго –<br>Каб ні ярма, ні імглы, ні аблуды<br>Болей зведала доля яго! | Псалтыр, пакрытую няжорсткай бурай кожай,<br>Я ўзяў і срэбныя засцёжкі адамкнуў,<br>Перачытаў радкі кірыліцы прыгожай<br>І воску з ладанам прыемны пах пачуў.<br>Вось псальма слічная. «Як той алень шукае<br>Крыніцы чыстай, так шукаю бога я».<br>Як вее свежасцю яе краса жывая!<br>Як радасна далей спяшыць душа мая!<br>І бачу я ў канцы няхітрую прыпіску,<br>Што «кнігу гэтую раб божы, дзяк Гапон,<br>Дзеля душы спісаў у месце Ваўкавыску<br>У рок сем тысяч сто васьмы з пачатку дзён». |

***Першы паэт***

**Вядучы 1.** Мала хто ведае, але Скарыну можна назваць і першым беларускім паэтам, аўтарам першых вершаў на старабеларускай мове. Яго папярэднікі, нават такія вядомыя і таленавітыя творцы як Кірыла Тураўскі, не пісалі па-беларуску і не стваралі вершаваныя творы ў сучасным разуменні гэтага паняцця. Сучаснік Скарыны Мікола Гусоўскі ў паэтычнай творчасці аддаваў перавагу класічным мовам (напрыклад, лацінскай).

**Вядучы 2.** А вось Скарына адным з першых звярнуўся да вершатворчасці менавіта на беларускай мове. Дзякуючы друкаванаму слову гэтыя творы прайшлі праз стагоддзі войнаў і разрухі і сёння сведчаць пра багацце і веліч нашай культуры. Прыблізна ў часы Францыска Скарыны адбывалася пашырэнне ў Еўропе і на беларускіх землях у прыватнасці сілабічнага вершаскладання. Сутнасць сілабікі ў чаргаванні аднолькавай колькасці складоў у вершаваных радках. Можна сказаць, што менавіта дзякуючы Францыску Скарыне сілабічная паэзія прыйшла ў Беларусь.

**Вядучы 1.** Падобныя прыклады пачатковага вершаскладання мы знаходзім як у пражскіх, так і ў віленскіх выданнях Скарыны. Больш таго, беларускі асветнік рызыкуе прадставіць у вершаванай форме не толькі ўласныя словы Святога Пісання, але і Божыя запаветы. Вершаваныя творы Скарыны не толькі эмацыянальна ўзмацняюць асобныя думкі аўтара, але часам становяцца высновай усяго твора асветніка. Такім чынам, паэтычная спадчына Францыска Скарыны ўяўляе сабою першаўзоры беларускай паэзіі, а самога Скарыну можна лічыць першым уласна беларускім паэтам.

**Вядучы 2.** Вось як выглядаў першы верш аўтарства Францыска Скарыны, змешчаны ў Кнізе Іова (Прага, 1517):

Богу в Троици единому
ко чти и ко славе,
Матери Его Пречистой
Марии к похвале.
Всем небесным силам
и святым Его к веселію,
Людем посполитым
к доброму научению.

**Вядучы 1.** Выдатны беларускі паэт Алесь Разанаў зрабіў усё магчымае, каб найбольш дасканала перакласці («перастварыць» — як гэта адзначыў сам аўтар) вершы са старабеларускай мовы Скарыны на сучасную беларускую літаратурную мову. Першы рэктар Віленскага ўніверсітэта Пётр Скарга яшчэ ў XVI ст. сцвярджаў, што адзіна на грэчаскай мове і на латыні можа гучаць слова Божае як слова Паэзіі, – іншым мовам несці красу слова Божага не дано. Але ўсё ж такі — дано! І святое ўжо для нас Слова Францыска Скарыны таму сведка, а «перастварэнне» Псалмоў Давідавых на сучасную беларускую і рускую мову, здзейсненае Алесем Разанавым, — сведчанне. І зараз у нас з вамі будзе магчымасць праслухаць некаторыя з вершаваных твораў Скарыны з «Книги стихов», якую склаў Алесь Разанаў.

**Чытальнік.**

| | |
|---|---|
| **1.**Пісанне, натхнёнае Богам,<br>карыснае ўсякаму чалавеку:<br>для навучання<br>і разважання,<br>для ачышчэння<br>і высвядчэння,<br>для выпраўлення<br>і для здзяйснення праўды, —<br>каб дасканалы быў чалавек<br>і здатны<br>да ўсякае добрае справы, —<br>як святы апостал Павел<br>піша. | **3.**Разнятся между собою<br>писания,<br>здесь названные, однако<br>и вместе они,<br>и отдельно<br>единую истину воплощают,<br>единую мысль вмещают,<br>единую цель восхищают:<br>как достичь человеку<br>жизни,<br>над коей не властны<br>ни прах, ни смерть. |
| **5.**Псалтирь же содержит<br>достоинства,<br>коими сущи<br>иные писания,<br>и, как они,<br>знаниям учит<br>и, как они, пророчит.<br>Она — как сокровищница<br>наиценнейших<br>сокровищ мира.<br>И эти сокровища не бриллианты, | **12.**В них — упование<br>на победу над смертью,<br>на восстание<br>из мира мертвых;<br>в них — постижение жизни,<br>не знающей окончания,<br>в них —<br>предостережение перед страшным<br>судом<br>и пламенем неугасимым;<br>в них — отмыкание замкнутого, |

| | |
|---|---|
| не сребро,<br>не злато,<br>не изумруды,<br>а человеческие слова,<br>вдохновенные Богом<br>и обращенные к Богу. | открывание скрытого<br>и объявление тайного…<br>Словно великая сокровищница,<br>все это<br>содержит и сберегает<br>в себе Псалтирь. |
| **16.**Да будет ведомо,<br>что положил<br>я сбоку печатных страниц<br>названия глав<br>из иных<br>богоугодных книг,<br>чтобы каждый,<br>желающий убедиться,<br>мог видеть,<br>что друг о друге<br>свидетельствуют остальные<br>святые писания<br>и с Псалтирью<br>все соглашаются вместе.<br>А также сбочь поместил,<br>ни в чем<br>не нарушая самой Псалтири,<br>слова, которые людям простым<br>не понятны будут,<br>и объяснил их словами<br>русского языка.<br>И разделил я также<br>псалмы на стихи —<br>согласно тому, как делят<br>в иных языках. | **13.**Видя великие вещи,<br>собранные в небольшой<br>этой книжке,<br>я, Франтишек,<br>Скоринин сын, родом<br>из Полоцка города,<br>доктор<br>в науках лекарских,<br>повелел<br>печатать в городе Пражском старом<br>Псалтирь<br>в языке славянском<br>словами русскими: ради<br>чествования и почитания<br>Бога, единого в Троице,<br>и пречистой<br>матери Божьей — Марии,<br>и божьих святых,<br>и всего<br>небесного чина;<br>а также ради насущной<br>пользы людей посполитых,<br>с которыми Бог милосердный<br>сроднил меня,<br>дав мне прийти на свет<br>в этом народе<br>и языке. |

***<u>Скарына – мастак?</u>***

**Вядучы 1.** Выданні Скарыны вылучаюцца сваімі мастацкімі якасцямі. Беларускі першадрукар — прыхільнік рэнесансавай еднасці прыгожага і карыснага: застаўкі ён змяшчае дзеля аздобы і лепшага разумення чытачамі. Скарына быў вымушаны даволі глыбока пагрузіцца ў працэс друкавання кнігі. Таму што ніколі дагэтуль у Празе кнігі не друкаваліся кірылічным шрыфтам. Гэта патрабавала ад выдаўца пэўных заходаў па распрацоўцы макета новага шрыфту. Магчыма, Скарына прымаў удзел і ў вырабе матрыц для друкавання ініцыялаў, розных дэкаратыўных заставак і гравюр з захаваннем стылістыкі праваслаўных рукапісаў. Усяго толькі да пражскіх выданняў Скарынай была заказана 51 ілюстрацыя, пераважная большасць якіх змешчана на тытульных лістах кніг, каля 30 заставак і каля 1 000 ініцыялаў.

**Вядучы 2.** Кнігі, надрукаваныя Скарынай, спалучаюць традыцыйныя рысы старажытнага беларускага рукапіснага кнігааздаблення з наватарствам еўрапейскай кніжнай гравюры. Як і належыць тытану Адраджэння, Скарына быў адначасова філосафам, літаратарам, вынаходнікам і мастаком. Гравюры, выкананыя ім для «Бібліі рускай», уражваюць свежасцю мастацкага рашэння, смеласцю ракурсу, вытанчанасцю і адначасова прастатой. Кожны біблейскі герой мае яркую і вельмі індывідуальную

знешнасць. Нельга забыць ці зблытаць з іншымі твары Майсея, Давыда, Саламона, Эсфіры, Руфі.

**Вядучы 1.** Акрамя таго, што ілюстрацыі ўпрыгожвалі выданні, яны дапамагалі ў асвеце, бо кнігі выкарыстоўваліся ў той час і для навучання. Упершыню ён увёў тытульны ліст, тлумачальныя падзагалоўкі, пааркушавую нумарацыю, абзацы. Як запавет нашчадкам даносяцца да нас з XVI ст. пранікнёныя і мудрыя словы Скарыны: «Любіце кнігу, бо яна — крыніца мудрасці, ведаў і навукі, лекі для душы».

**Чытальнік.**

**Максім Танк. Гравюры Скарыны**

Гравюры Скарыны!
Ён выразаў іх
На спаконвечным
Дрэве гісторыі
Свайго народа,
Хоць мог бы падабраць
І больш падатлівы,
І больш удзячны
Матэрыял.
І выразаў ён іх
Не штыхелем-разцом,
А промнем сонца.

Промнем сваёй веры
І любові да народа.

Таму штрых кожны
Быў такі глыбокі,
Што ні агонь,
Ні забыццё,
Ні ворагі,
Ні час
Гравюраў гэтых
Знішчыць
Не змаглі.

І сёння
Нейкая чароўная
Жыве ў іх сіла,
Якая сляпым
Вяртае зрок,
Глухім — іх слых,
Няпомнячым —
іх памяць,
А без'языкім — мову.

***__Манаграма Скарыны__***

**Вядучы 1.** Амаль на кожнай скарынінскай гравюры прысутнічае аднолькавы герб. Аб прыналежнасці і значэнні гэтага герба некаторыя даследчыкі творчасці першадрукара выказвалі розныя меркаванні. Большасць, аднак, схілялася да таго, што гэта асабістая манаграма Ф. Скарыны. Адлюстраванне сонца з аблiччам чалавека ў фас і месяца з чалавечым профілем сустракаюцца ў шмат якіх заходнееўрапейскіх друкаваных кнігах XV–XVI стст. Але ў гэтых выданнях сонца і месяц намаляваны паасобна, тады як на гравюрах Скарыны яны злучаны такім чынам, быццам сонца выглядае з-за месяца, асвятляючы яго сваімі праменнямі.

**Вядучы 2.** Паводле народных вераванняў, злучэнне месяца і сонца — дрэнная прыкмета. І летапісец «Слова аб палку Ігаравым» тлумачыць няўдалы паход Ігара благім прадвесцем — зацьменнем сонца. Затое нямецкі гуманіст і гісторык Хартман Шэдэль, гаворачы аб нараджэнні Аляксандра Македонскага, падае такі стан сонца і месяца як добры знак. Чаму ж Скарына абраў менавіта гэты герб?

**Вядучы 1.** Расшыфроўваючы значэнне гэтай манаграмы, беларускі мастацтвазнавец Мікола Шчакаціхін выказаў меркаванне, што Скарына адлюстраваў на ёй сонечнае зацьменне, якое адбывалася над тэрыторыяй Беларусі ў 1486 г. Зыходзячы з гэтага, Шчакаціхін робіць вывад: герб сімвалізуе год нараджэння беларускага першадрукара. Магчыма, у гэтым і ёсць доля праўды, аднак, напэўна, галоўны сэнс герба ў наступным — перамога святла над цемрай. Ва ўяўленні беларусаў сонца ўвасабляе сабой святло, цеплыню, жыццё, а месяц наадварот — цемру і ноч.

**Чытальнік.**

| | |
|---|---|
| **Васіль Зуёнак. Такі быў знак…**<br>**(урывак)**<br>. . . . . . .<br>Не трапіў у гярбоўнік гэты знак,<br>І на шчытах не карбаваўся слынных,<br>І роду ён не знатнага —<br>аднак:<br>Стаўляў яго першадрукар Скарына.<br><br>Гравюру тонкую выводзіла рука —<br>Глядзі, люд паспаліты, і кумекай:<br>У промнях сонца — рог маладзіка:<br>Як фас і профіль твару чалавека.<br><br>Адны казалі: «Гэта ноч і дзень,<br>Святло і цемра…»<br>Іншыя: «Францыску<br>Карцела перадаць зацьмення цень<br>У год, калі сустрэўся ён з калыскай…» | Мабыць, і так… Але хутчэй за ўсё<br>Быў маладзік хвіліны думнай знакам,<br>Што па начах бяссонна мы нясём<br>Пад спаконвечным кругам Задыяка.<br><br>А сонца — сімвал светлы пачуцця<br>І прамяністы поўдзень летуценняў.<br>Аблічча двухадзінае жыцця —<br>Развагі холад і агонь натхнення.<br>. . . . . . .<br>На той выяве герб — аўтапартрэт:<br>Друкар Скарына ў сонечным абліччы<br>Дыктуе веку новы запавет,<br>Парушыўшы біблейскі строгі звычай.<br><br>Такі быў знак. Ён з Полацкай зямлі<br>Пайшоў у свет, зламаў маўчання крыгі…<br>Цябе мы — як надзею — збераглі,<br>Скарынаўскае сонца, наша кніга! |

***Жонка Скарыны***

**Вядучы 1.** Упоперак меркаванню пра тое, што ў біяграфіях выдатных асоб не можа быць белых плям, у Скарыны амаль усё, што тычыцца яго асабістага жыцця, засталося таямніцай нават для самых старанных даследчыкаў. І толькі некалькі намёкаў на моцнае, прыгожае каханне да жанчыны па імені Маргарыта... Яна была жонкай аднаго з бліжэйшых сяброў Францыска, віленскага купца Юрыя Адверніка. Адвернік разам з двума іншымі віленскімі мецэнатамі Якубам Бабічам і Багданам Онькавым даў грошы Скарыне для стварэння ў 1517 годзе першай друкарні ў Празе.

**Вядучы 2.** Менавіта ў гэтай пражскай друкарні наканавана было з’явіцца на свет бессмяротнай, самай славутай працы асветніка — Бібліі на яго роднай мове. Калі ўважліва ўглядзецца ў старонкі кнігі, сярод вобразаў на гравюрах мы часта сустракаем адзін пляняльны жаночы лік. Мастак дастае гэты вобраз з глыбінь сваёй памяці і ўпарта прымушае ўдзельнічаць у самых драматычных біблейскіх падзеях, робячы безыменную гераіню, апранутую ў сціплае адзенне беларускай гараджанкі, наперсніцай самых вялікіх з біблейскіх жанчын. На правах даверанай дамы са світы царыцы Эсфіры яна падтрымлівае яе шлейф. Разам з дачкой фараона назірае за тым, як з Ніла рабы вылаўліваюць карзінку з немаўлём Майсеем.

**Вядучы 1.** Наўрад ці выпадкова доктар Скарына змяшчае выяву той жа таямнічай незнаёмкі на гравюру, якая ілюструе самую паэтычную частку Бібліі — «Песню песняў» цара Саламона. Менавіта яе схіленую галоўку вянчае тут зіхатлівай каронай прамудрасці сам Гасподзь. Ля ног незнаёмкі — славуты герб Францыска Скарыны. Магчыма, гэтая дзіўная гравюра — ключ да ўсіх астатніх, як зашыфраванае прызнанне ў каханні канкрэтнай жанчыне, той, якая абавязкова ўбачыць гравюры Скарыны ў Бібліі.

**Вядучы 2.** Кажуць, калі пасля доўгіх гадоў вучобы ў Кракаве і Падуі вярнуўся ў 1513 г. сын полацкага купца Лукі Францыск на радзіму, сябры запрасілі яго пажыць у сталіцы Вялікага Княства Літоўскага. І вось у Вільні на плошчы перад ратушай сустрэў доктар Скарына прыгожую, бы сонечнае святло, Маргарыту. Калі верыць гэтаму паданню, з Маргарытай доктар Скарына пазнаёміўся выпадкова і значна раней, чым з яе мужам, Юрыем Адвернікам. Потым ёнператварыўся ў сябра сям’і. А Адвернік стаў аднадумцам Скарыны і яго мецэнатам.

**Вядучы 1.** Калі ў 1521 г. пасля некалькіх гадоў напружанай творчай працы ў Празе Францыск у чарговы раз прыехаў у Вільню, клопат пра яго побыт узялі на сябе Адвернікі. Юрый дапамог стварыць новую друкарню і, будучы членам гарадскога савета, усяляк абараняў свайго адукаванага сябра ад нападак тых, каму вельмі хацелася абвясціць Скарыну ерэтыком ці нават чарадзеем. А Маргарыта, пэўна, стала той музай, што натхняла асветніка на новыя працы. У 1522 г. у віленскай друкарні Скарыны нарадзілася «Малая падарожная кніжка», а ў 1525 — славуты «Апостал».

**Вядучы 2.** А затым здарылася тое, чаго ніхто з іх не чакаў. У 1525 г. захварэў і памёр Юрый Адвернік. Так доктар Скарына атрымаў ад нябёсаў права на асабістае шчасце з каханай жанчынай. Іх сямейнае жыццё не было доўгім, але кожны дзень яго быў напоўнены каханнем. Маргарыта, якая не мела дзяцей ад Адверніка, нарадзіла Скарыне двух сыноў. Але летам 1530 г. яе забраў мор… Не маючы сіл заставацца больш у горадзе, дзе ён перажыў такія цяжкія пакуты, Францыск пакінуў Вільню назаўжды.

**Чытальнік.**

| | |
|---|---|
| **Аляксей Зарыцкі. Саперніцы**<br>Бывае, што захмараную даль<br>Стагоддзяў расхінаюць нашы мыслі.<br>Так я раптоўна ўбачыў, як, амаль<br>Пяцьсот гадоў назад, на бераг Віслы, —<br>Там, дзе над Кракавым старым узнёс<br>Славуты Вавель залатыя вежы, —<br>Студэнт Скарына паўз вячэрні плёс<br>Шыбуе адзінока па ўзбярэжжы.<br>Увесь ва ўладзе ён юнацкіх дум,<br>Рыторыка і логіка забыты.<br>Усё мацней сціскае грудзі сум:<br>Чаму няма так доўга Маргарыты?<br>Але ў сутонні ціхім вечарка<br>З ім не каханая загаварыла панна,<br>Спыняе над абрывам юнака | Прафесар пасівелы нечакана:<br>– Навуцы прысвяці сябе спаўна,<br>Калі цябе з ёй доля заручыла.<br>Запомні, што не прызнае яна<br>Саперніц аніякіх, як жанчына.<br>Свой скарб збірай упарта пакрысе,<br>Так мудрасць прыйдзе й шчасце прынясе.<br>Пайшоў далей прафесар самавіта.<br>Юнак збянтэжаны. Гусцее змрок…<br>Ды вось Скарына чуе лёгкі крок.<br>Ідзе. Ідзе нарэшце Маргарыта!<br>І я, выведнік, затаіўшы дых,<br>Зайздросна паглядаю на Скарыну.<br>За ўсіх ён шчаслівейшы ў гэты міг,<br>За ўсіх мудрэйшы ў гэтую хвіліну. |

***<u>Каралеўскі садоўнік</u>***

**Вядучы 1.** Яшчэ падчас навучання і абароны доктарскай дысертацыі ў Падуанскім універсітэце Францыск Скарына, верагодна, зацікавіўся батанікай, бо вывучэнне лекавых раслін было абавязковым для будучых медыкаў. Нездарма менавіта пры Падуанскім універсітэце ў 1545 г. быў заснаваны найбольш старажытны з пастаянна дзеючых батанічных садоў свету. У поўнай меры талент Скарыны-садоўніка праявіўся ў сярэдзіне 1530-х гадоў, калі ён канчаткова выехаў за мяжу і пасяліўся ў добра знаёмай яму Празе. Тут яго веды былі выкарыстаныя чэшскім каралём Фердынандам I, які запрасіў Францыска Скарыну для працы ў якасці каралеўскага медыка і садоўніка («заграднікa») у нядаўна адкрытым Каралеўскім садзе на Градчанах.

**Вядучы 2.** Пасля доўгіх пошукаў добрага садоўніка, якога не атрымалася знайсці ў самой Празе, кароль сам 22 мая 1535 г. паслаў такога чалавека з Вены. Гэтага чалавека звалі Францыскам і ён лічыўся італьянскім садоўнікам. Верагодна, гэтым італьянскім садоўнікам быў ніхто іншы як наш Францыск Скарына, які меў добрую італьянскую адукацыю ў галіне медыцыны і батанікі.

**Вядучы 1.** У Каралеўскім садзе на Градчанах Скарына разводзіў паўднёвыя расліны. У 1539 годзе разам з ім у садзе пачаў працаваць доктар Вэніус з Галандыі. Аднак у сувязі з эканамічнымі цяжкасцямі ў тым жа годзе абодва каралеўскія садоўнікі былі звольненыя з працы. Але вынік працы беларускага вучонага-батаніка быў відавочным: ён стварыў у Празе цудоўны італьянскі рэнесансны сад. Пасля ім займаліся многія слаўныя

майстры. Сёння ў Празе, побач са старажытным Каралеўскім садам на Градчанах усталяваны адзін з найпрыгажэйшых помнікаў беларускаму першадрукару.

**Чытальнік.**

| **Station** | |
|---|---|

<table>
<tr>
<td>Станіслаў Шушкевіч. Скарына ў Празе (урывак)<br>Скарына расціраў камяк зямлі<br>ў шурпатых пальцах,<br>карэнне зелля разглядаў,<br>што нібы ніткі, звіта.<br>Хоць лекавых раслін здаўна<br>быў вядомым знаўцам,<br>расліну ж распазнаць не мог<br>вучоны самавіты.<br><br>Нарэшце асвятліла твар<br>уміг здагадка.<br>Нібы пасля цямна<br>убачыў ён заранкі.<br>Батанік на калена стаў<br>ля самай градкі:<br>– Ды гэта ж з тых раслін,<br>што ў нас растуць ля Абалянкі!..<br><br>Радзіма, я пакінуў сам твае лясы,<br>палі, і гарады, і сёлы,<br>пайшоў у свет шукаць я для цябе<br>святло навукі…<br>У Празе прыязной не знаю<br>адзіноты невясёлай,<br>а сэрца неспакойна ўсё ж, бывае,<br>б'ецца ад нязнанай мукі.<br>Чатырыста раз выспявалі<br>ажыны.<br>. . . . . . .</td>
<td>Алег Лойка. Скарына – каралеўскі садоўнік на Градчанах (урывак)<br>Тут ён хадзіў, і ліпы векавыя,<br>Што сёння навісаюць нада мной,<br>Мо праўнукі сцяблінак тых, якія<br>Ён пасадзіў уласнаю рукой.<br><br>Адсюль, з Градчан, ён, пэўна, па-за Влтаву<br>Не раз на поўнач любую глядзеў:<br>То пах туман наддзвінскаю атавай,<br>То цвіў чаромхай воблак у вадзе.<br><br>Бароў далёкіх мроіўся сон сіні;<br>Спеў жаўранка, віроў і пчолаў гуд.<br>Сафійка і царкоўка Ефрасінні,<br>Бацькоўскай пяцісценкі родны кут.<br><br>Глядзеў на Влтаву — на віры і тамы,<br>А ўспамінаў пра іншыя віры,<br>Пра гнёзды, птушкам любыя, пра ямы,<br>Што любяць у пустынях нат звяры.<br><br>І трэба ж так! Ці ж не народу, краю<br>Аддаў ён і сябе, і кніг тамы,<br>Завошта ж лёс бязлітасна карае<br>Пажарамі і холадам турмы?..<br>. . . . . . .<br>Садоўнік каралеўскі, муж славуты,<br>Доктар мастацкіх, лекарскіх навук,<br>Я б тут не замарудзіў ні мінуты,<br>Зноў не змываў бы фарб друкарскіх з рук.<br>. . . . . . .</td>
</tr>
</table>

***Нашчадкі Скарыны***

**Вядучы 1.** Як мы даведаліся раней, у Францыска Скарыны было двое сыноў — Сымон (Сімяон) і Францыск. У выніку, калі Скарына вымушаны быў пакінуць сталіцу і пераехаць са старэйшым сынам Сымонам у замак Крумлаў на поўдні краіны, малодшага сына пакінулі ў Празе, у доме свайго сябра, дзе пра хлопчыка клапацілася кухарка Магдалена. Сымон Скарына, як мяркуецца, працягнуў справу бацькі: працаваў лекарам і садоўнікам і некаторы час жыў у Крумлаве і Йіндржыхуў-Градцы ў паўднёвай Чэхіі. Дакументы сведчаць, што ў 1570-я гады «стары заграднік Рус з Полацка — Шымон Русак» працаваў у прыватнаўласніцкім маёнтку ў Градцы, а ў 1577 г. — усё яшчэ працаваў у Крумлаве.

**Вядучы 2.** А вось лёс малодшага сына першадрукара Францыска Скарыны быў, на жаль, трагічным. Ён загінуў 2 чэрвеня 1541 г. падчас пажару ў падпаленай нейкай нядобрай рукой друкарні ў Празе. Храніст В. Гаек запісаў: пры пажары ў пражскім крамлі

ў сяброўскім доме ксяндза Яна з Пухова загінуў «Франтишек, сын бывшего когда-то доктора Руса».

**Вядучы 1.** Мяркуюць, што нашчадкі Сымона Скарыны жылі ў Чэхіі і Славакіі. Зараз лічаць сябе прамымі нашчадкамі выхадца з Полацка — доктар медыцыны і філасофіі, прафесар Манрэальскага ўніверсітэта Станіслаў Стэнлі Скарына (Канада) і літаратар Юрый (Ежы ці Георгій) Скарына (Мексіка). Даследчыкі дапускаюць, што гэтыя ўсебакова адораныя і, безумоўна, таленавітыя людзі, могуць быць нашчадкамі па лініі Сымона Скарыны.

**Вядучы 2.** Адносна існавання нашчадкаў Францыска Скарыны ў Беларусі ніякіх звестак няма. Разам з тым, прозвішча Скарына і вытворныя ад яго Скарынец, Скарынка, Скарынкевіч, Скарынкін, Скарыннікаў даволі распаўсюджаныя на тэрыторыі нашай краіны і сустракаюцца фактычна ва ўсіх абласцях краіны. Неаднаразова адзначаюцца і назвы беларускіх населеных пунктаў, утвораныя ад прозвішча Скарына і яго вытворных: Скарынава Слабодка, Скарыніна, Скарынкі, Скарынчына, Скарыновіч, Скарынічы.

**Чытальнік.**

| **Данута Бічэль-Загнетава** | **Уладзімір Скарынкін. Спадчына Скарыны (урывак з паэмы «Астральны знак Францыска»)** |
|---|---|
| Будучыня Беларусі —<br>старажытныя кнігі Скарыны.<br><br>Натхненне і талент нашчадкаў<br>у вобразах вершаў Скарыны…<br><br>І не малее запас<br>з умалоту Скарынавых думак.<br><br>І як бы тут ні прыйшлося<br>адольваць упорысты лёс, —<br><br>выйграў нам час Скарына. | Друкар нястомны<br>ў спадчыну пакінуў<br>Нашчадкам кнігі —<br>толькі і ўсяго.<br>А я гатоў абагаўляць Скарыну —<br>Прамы і ўдзячны спадчыннік яго.<br><br>Убок адкіньце кепікі і кпіны!<br>Нам зразумець даўно пара,<br>што мы<br>З'яўляемся нашчадкамі Скарыны.<br>З нас кожны —<br>спадчыннік яго прамы.<br><br>Як ён,<br>я нарадзіўся беларусам,<br>Спляліся цесна<br>нашы карані.<br>Не адракуся —<br>нават пад прымусам —<br>Я ад сваёй радзімы і радні.<br>Багаты я<br>яго нязломным духам,<br>Яго любоўю да зямлі бацькоў.<br>На жаль,<br>зямля чужая стала пухам<br>Для першага з русінаў друкароў.<br><br>Ні зліткі залатыя,<br>ні рубіны<br>Не трэба мне.<br>Маё багацце ў тым,<br>Што нада мной<br>астральны знак Скарыны<br>Гарыць нязгасна<br>ў прыцемку густым. |

**Вядучы 1.** Будзем спадзявацца, што сёння вы змаглі паглыбіць свае веды і адкрыць для сябе шмат новага пра нашага знакамітага земляка… Біяграфія Францыска Скарыны хавае ў сабе яшчэ шмат таямніц. Але вядома галоўнае: што з яго імем звязана выдатная інтэлектуальная падзея ў жыцці не толькі беларускага народа, але і ўсіх усходніх славян — выданне ў пачатку XVI стагоддзя значнай часткі Бібліі. А таму пераацаніць уклад вялікага беларускага асветніка і першадрукара ў нашу культуру немагчыма.

**Вядучы 2.** А гэты вечар можна закончыць словамі Міхася Пазнякова:

Асветнік, вучоны
І першадрукар,
Наш гонар —
Францішак Скарына.
Запомні ўсім сэрцам
Як велічны дар
Радзімы
Славутага сына.

**Вядучы 1.** Праклаў ён дарогу
Да Слова, Святла,
За Матчыну Мову
Паклікаў змагацца,
Каб вольнай заўсёды
Між вольных магла
Дзяржаваю
Белая Русь
Называцца.

## Частка 4. Палажэнне аб раённым (гарадскім) Конкурсе чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Францыска Скарыны

1. Агульныя палажэнні

1.1. «Палажэнне аб Конкурсе чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны» (далей — Конкурс), вызначае агульны парадак яго арганізацыі і правядзення.

1.2. Арганізатарам Конкурсу з’яўляецца ЦРБ ці ЦГБ (далей — Бібліятэка).

1.3. Конкурс рэкамендавана праводзіць у рамках святкавання 500-годдзя з пачатку беларускага кнігадрукавання з 1 лютага па 30 верасня 2017 года.

1.4. Удзельнікі Конкурсу для водгукаў выбіраюць мастацкія творы з фондаў Бібліятэкі, калі іншае не агаворана арганізатарамі (Дадатак 1).

1.5. Пераможцы Конкурсу атрымліваюць прызы.

2. Мэты і задачы Конкурсу

2.1. Конкурс праводзіцца ў мэтах патрыятычнага, маральнага, эстэтычнага выхавання дзяцей і моладзі, далучэння іх да культурнай спадчыны, паглыблення ведаў па літаратуры і гісторыі.

2.2. Задачы Конкурсу:

- садзейнічанне развіццю ў чытачоў навыкаў удумлівага чытання і аналізу мастацкіх твораў розных жанраў;

- стымуляванне ў чытачоў цікавасці да значнай падзеі 2017 г. — 500-годдзя з пачатку беларускага кнігадрукавання;
- аднаўленне цікавасці да легендарнай асобы беларускай гісторыі — Францыска Скарыны;
- стварэнне ў бібліятэках умоў, якія садзейнічаюць набыццю чытацкага майстэрства;
- падтрымка бібліятэчных ініцыятыў па фарміраванні чытацкай культуры.

3. Арганізацыя і правядзенне Конкурсу

3.1. Для арганізацыі Конкурсу ствараецца аргкамітэт-журы з ліку спецыялістаў бібліятэчнай справы, а таксама прадстаўнікоў іншых арганізацый.

3.2. Аргкамітэт выконвае наступныя функцыі:

- ажыццяўляе агульнае кіраўніцтва і бягучую арганізацыйную працу па правядзенні Конкурсу;

- прымае конкурсныя матэрыялы і вядзе іх улік;

- аналізуе і ацэньвае конкурсныя работы, вызначае пераможцаў.

3.3. Аргкамітэт зацвярджае спіс прызоў для пераможцаў, якія занялі 1-е, 2-е і 3-е месцы ў кожнай з намінацый. Журы мае права дадаткова прысуджаць заахвочвальныя прэміі ў кожнай з намінацый.

4. Удзельнікі Конкурсу

4.1. Удзельнікамі конкурсу з'яўляюцца чытачы публічных бібліятэк ЦБС рознага ўзросту.

4.2. Аргкамітэт размяркоўвае конкурсныя работы па дзвюх узроставых катэгорыях: 1-я група — ад 13 да 15 гадоў, 2-я група — ад 16 да 18 гадоў.

5. Намінацыі Конкурсу

5.1. Лепшы чытацкі водгук на паэтычны твор аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны пад назвай «…Мне прыпомніўся вобраз Скарыны з поўнай жменяй жамчужын — зярнят».

5.2. Лепшы чытацкі водгук на драматычны твор аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны пад назвай «У цемры невуцтва слова Скарыны гучала…».

5.3. Лепшы чытацкі водгук на празаічны твор аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны пад назвай «Па Скарыне Берасцейцы мудрасць пазнаюць».

6. Умовы правядзення і патрабаванні да прадастаўляемых матэрыялаў у рамках Конкурсу

6.1. Канкурсант запаўняе Карту ўдзельніка Конкурсу (Дадатак 2).

6.2. Удзельнік Конкурсу прадастаўляе водгук на мастацкі твор аб жыцці і творчасці Ф. Скарыны.

6.3. У конкурснай рабоце неабходна ўказаць выхадныя даныя кнігі, якая аналізуецца (аўтар, назва, месца і год выдання, колькасць старонак).

6.4. Аб’ём машынапіснага тэксту конкурснай работы не павінен быць больш за 2 старонкі (шрыфт — Times New Roman, кегль — 14, міжрадковы інтэрвал — 1,5). Аб’ём рукапіснага тэксту (почырк разборлівы) конкурснай работы не павінен быць больш за 5 старонак.

6.5. Аўтарскае права на створаныя ў рамках Конкурсу работы застаецца за аўтарамі.

6.6. Аўтары нясуць усю меру адказнасці за змест сваёй работы.

6.7. Прадстаўляемыя на Конкурс матэрыялы не вяртаюцца. Работы, якія не адказваюць умовам Конкурсу, не разглядаюцца.

7. Крытэрыі ацэнкі прадстаўленых на Конкурс работ

7.1. Ацэнка творчых работ праводзіцца па наступных крытэрыях:

- ацэньваецца ўвесь змест работы;

- чытацкі водгук павінен быць напісаны ўдзельнікам Конкурсу самастойна і змяшчаць яго суб’ектыўныя адносіны да твора;

- выкладанне свайго пункта гледжання павінна быць зразумелым і паслядоўным, а мова — набліжанай да літаратурнай, таксама ўлічваецца арыгінальнасць падачы матэрыялу;

- ацэнка твора павінна быць аргументаванай.

7.2. Матэрыялы, спампаваныя з сеткі Інтэрнэт, да Конкурсу не дапускаюцца.

8. Падвядзенне вынікаў і ўзнагароджанне

8.1. Конкурсныя работы і звесткі аб узнагароджанні публікуюцца на афіцыйным сайце ЦБС.

8.2. Арганізацыйным камітэтам рыхтуецца цырымонія ўзнагароджання.

8.3. Аўтары, запрошаныя на ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання і падвядзення вынікаў Конкурсу, апавяшчаюцца аб месцы і часе яе правядзення.

*Дадатак 1*

## Прыкладны пералік твораў

### Празаічныя творы

**1**. Гарэцкі, М. Фантазія / М. Гарэцкі // Падарожная кніжка Скарыны / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск, 1990. – С. 66–70.

**2**. Клышка, А. К. Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга : для мал. і сярэд. шк. узросту / А. К. Клышка. – Мінск : Полымя, 1995. – 92 с. (*І яго перавыданні*).

**3**. Лойка, А. А. Скарына на Градчанах : аповесць / А. А. Лойка. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 111 с.

**4**. Лойка, А. А. Францыск Скарына, або Сонца Маладзіковае : раман-эсэ / А. А. Лойка. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1990. – 382 с. (*І яго перавыданні*).

**5**. Рассолов, М. М. Франциск Скорина : исторический роман / М. М. Рассолов. – Москва : Терра – Книжный клуб, 2007. – 414, [2] с.

**6**. Садкович, М. Георгий Скорина : исторический роман : для ст. шк. возраста / М. Садкович, Е. Львов. – Минск : Изд-во Академии наук БССР, 1957. – 454 с.

**Паэтычныя творы***

1. Арочка, М. Прамаўленні Скарыны. С. 96–97.
2. Багдановіч, М. Кніга. С. 47.
3. Барадулін, Р. Скарынавы сляды. С. 104–105.
4. Бічэль-Загнетава, Д. Будучыня Беларусі. С. 110.
5. Брэсцкая, Г. Францішку Скарыне. С. 117–118.
6. Бураўкін, Г. Полацкая балада. С. 113–114.
7. Бураўкін, Г. Скарына. С. 111–113.
8. Бядуля, З. Паходні. С. 64–65.
9. Геніюш, Л. Скарына. С. 122–124.
10. Гілевіч, Н. Мара Скарыны. С. 125–126.
11. Дудар, А. Скарына. С. 133–134.
12. Жук, К. Францішку Скарыне. С. 136–137.
13. Зуёнак, В. Такі быў знак… С. 141–143.
14. Колас, Я. Мы маўчалі, як нямыя. С. 71.
15. Коўтун, В. Трыпціх надзеі. С. 166–168.
16. Лужанін, М. Як нараджаўся новы свет. С. 207–209.
17. Панізнік, С. ***Шлях маіх продкаў… С. 212.
18. Паўлікава, Л. Сумненне і вера. С. 218–219.
19. Пашкоў, Г. Партрэт Скарыны ў Падуі. С. 216–217.
20. Пракаповіч, М. Радзіме. С. 238.
21. Сіпакоў, Я. Кантрабанда (Беларуская балада. XVI ст.). С. 243–245.
22. Скарынкін, У. У Гудзевіцкім этнаграфічным музеі. С. 246–248.
23. Скарынкін, У. Спадчына Скарыны (урывак з паэмы «Астральны знак Францыска»). С. 248–249.
24. Танк, М. Гравюры Скарыны. С. 81–82.
25. Федзюковіч, М. Споведзь. С. 252–254.
26. Цвірка, К. Францыск, Скарынін сын. С. 255.
27. Шніп, В. Маналог Скарыны. С. 256–257.
28. Шушкевіч, С. Скарына ў Празе. С. 258–259.

*Усе паэтычныя творы ўзяты са зборніка: Падарожная кніжка Скарыны : зборнік, прысвечаны 500-годдзю беларускага першадрукара : для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 326 с.

**Драматычныя творы**

**1**. Адамчык, М. Vita brevis, або Нагавіцы святога Георгія : п’еса прысвячаецца вітэнберг. прыгодам Ф. Скарыны ў 1525 г. : фарс : у 2 актах / М. Адамчык // Сучасная беларуская п’еса. – Мінск, 1997. – С. 128–157.

**2**. Арочка, М. М. Судны дзень Скарыны : драматычная паэма / М. М. Арочка. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1991. – 167 с.

**3**. Вітка, В. Беларуская калыханка (урывак з паэмы) / В. Вітка // Падарожная кніжка Скарыны / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск, 1990. – С. 119–121.

**4**. Петрашкевіч, А. Напісанае застанецца: Францыск Скарына : гіст. Драма : у 2 дз. / А. Петрашкевіч // Беларуская п’еса : драм. тв. – Мінск, 1996. – С. 455–544.

**5**. Петрашкевіч, А. Прарок для Айчыны : гістарычная драма : у 3 дз. / А. Петрашкевіч // Сучасная беларуская драматургія : зб. п’ес. – Мінск, 1999. – С. 13–80.

**6**. Скобелев, Э. М. Грех старого Скорины // Сыны Отечества / Э. М. Скобелев. – Минск, 1999. – С. 9–47.

**7**. Танк, М. У Татрах / М. Танк // Падарожная кніжка Скарыны / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск, 1990. – С. 78–81.

**8**. Штэйнер, І. Ф. «Мудрости зачало и конець...», або Спакушэнне Скарыны : п’еса / Іван Штэйнер ; Літаратуразнаўцы аб творы. – Гомель : Барк, 2012. – 73 с.

**Зборнікі**

**1**. Слаўны сын Беларусі : кніга пра Скарыну : для сярэд. і ст. шк. узросту / уклад. С. С. Панізнік ; прадмова А. І. Мальдзіса. – Мінск : Юнацтва, 1994. – 254 с.
**2**. Падарожная кніжка Скарыны : зборнік, прысвечаны 500-годдзю беларускага першадрукара : для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 326 с.

*Дадатак 2*

**Карта ўдзельніка «Конкурсу чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Францыска Скарыны»**

Чытацкі білет № ___________________________
Прозвішча __________________________
Імя __________________________
Імя па бацьку ____________________
Узрост _________________
Тэлефон ___________________

З «Палажэннем аб Конкурсе чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Францыска Скарыны» азнаёмлены ___________________________

Даю згоду на фатаграфаванне з прызам «Конкурсу чытацкіх водгукаў на мастацкія творы аб жыцці і творчасці Францыска Скарыны» і на размяшчэнне гэтай фатаграфіі і звестак аб узнагароджанні на афіцыйным сайце … ЦБС.

Даю згоду на публікацыю маёй конкурснай работы на афіцыйным сайце … ЦБС.

Подпіс_____________________________

Дата «___»__________ 2017 г.

*Дадатак 3*

## Памятка па напісанні чытацкага водгуку

### Прынцыпы складання водгуку

Чытацкі водгук дае магчымасць чытачу выказаць свой пункт гледжання, распавесці аб чытацкім вопыце, эмоцыях, якія ў яго нарадзіліся пры чытанні, падзяліцца радасцю ад прачытанага.

**Уводная частка** (уступ). Можна звярнуць увагу на аўтара кнігі, расказаць аб сваіх чытацкіх прыхільнасцях, ацаніць кнігу.

1. Кароткая інфармацыя аб кнізе (аўтар, загаловак, жанр).

2. Інфармацыя аб тым, як здзейснілася сустрэча з кнігай (пры якіх абставінах вы прынялі рашэнне яе прачытаць, што паслужыла для гэтага штуршком).

3. Ваша меркаванне аб кнізе (чаго вы чакалі ад гэтай кнігі і ці спраўдзіліся вашы чаканні).

**Асноўная частка** (распovед). Тут трэба аргументаваць сваю ацэнку твора і прывесці свае довады. Гэта магчыма зрабіць паслядоўна і па пунктах.

1. Тэма твора (наколькі важныя тэмы, закранутыя аўтарам; ці актуальныя сёння праблемы, якія былі ўзняты ў творы).

2. Месца і час дзеяння (дзе і калі адбываецца дзеянне кнігі).

3. Героі твора (ацаніць 2–3-х галоўных персанажаў, выразіць адносіны да жыцця герояў, іх дзеянняў).

4. Асноўныя падзеі (зрабіць невялікі агляд цікавых сцэн, якія апісаны ў кнізе, але не пераказваць увесь сюжэт. Водгук разлічаны на чалавека, які, магчыма, не чытаў твор, таму нельга раскрываць усе сакрэты).

5. Асаблівасці мовы твора (фразы, якія запомніліся, новыя словы, а магчыма, прыгожыя апісанні асяроддзя, незвычайны сюжэт і г. д.).

**Заключная частка** (абагульненне). Вынік разважанняў — вашы думкі і пачуцці адносна прачытанага твора. Тут вы можаце параўнаць гэты твор альбо з іншымі творамі гэтага ж аўтара, альбо з творамі ў гэтым жа жанры.

1. Асноўная ідэя твора (над якімі пытаннямі застаўляе паразважаць кніга, у чым каштоўнасць яе чытання для вас).

2. Назва кнігі (чаму аўтар назваў свой твор менавіта так, а не інакш).

3. Запрашэнне да чытання (каму б вы маглі парэкамендаваць прачытаць гэтую кнігу, якім чытачам яна можа быць цікава).

### Магчымыя памылкі:

- пераказ дзеянняў не павінен займаць значную частку водгуку, таму што водгук – гэта вашы ўражанні ад кнігі, а не пераказ сюжэта;
- нельга «плаваць» у пытаннях тэксту — твор, па якім пішацца водгук, трэба прачытаць вельмі ўважліва;

- не трэба карыстацца пры напісанні свайго водгуку крытычнымі матэрыяламі аб гэтай кнізе;
- непаслядоўнае выкладанне думак і ўражанняў альбо адсутнасць лагічнага пераходу ад адной часткі да другой — тэкст павінен чытацца лёгка.

**Падказкі для афармлення вашых думак**

- *Уводная частка*: Я бы хацеў(ла) распавесці аб...; Нядаўна я прачытаў(ла)...; Гэта кніга напісана ў жанры...
- *Асноўная частка*: У аснове сюжэта…; Кніга распавядае пра тое, як (што)...; У гэтым творы распавядаецца аб...; Дзеянне кнігі адбываецца...; Мяне здзівіла...; Мне запомнілася, як...; Галоўны герой твора...; Самы цікавы момант...
- *Заключная частка*: Прачытанае застаўляе задумацца аб...; Калі чытаеш гэты твор...; Мне думаецца, што аўтар выбраў такую назву для сваёй кнігі, таму што...; Галоўнае адкрыццё, якое я зрабіў(ла)...; Я б парэкамендаваў(ла) гэтую кнігу тым, хто...

Вы можаце выкарыстоўваць наступныя сінонімы і выразы:

- гэтая кніга спадабалася (запомнілася, прыцягнула маю ўвагу, сапраўды кранула, звярнула на сябе ўвагу, вельмі ўразіла, бярэ за душу...);
- цікавая кніга (займальная, захапляльная, урэзалася ў памяць, чароўная, чытаць гэтую кнігу лёгка, дазваляе зрабіць выснову...);
- аўтар распавядае (паказвае, апісвае, кажа, адлюстроўвае жыццё, ілюструе, піша простай мовай, знаёміць з..., акрэслівае кола такіх пытанняў, як...)
- асабліва мне падабаецца галоўны герой гісторыі (цікавы, сімпатычны, прывабны, інтрыгуе, крануў мяне...).

Калі ўважліва аднесціся да дэталяў, успомніць усё, што вас уразіла ў творы, то напісаць водгук на кнігу будзе зусім не складана.

***Правілы, якіх пажадана прытрымлівацца пры напісанні чытацкага водгуку:***

1) У водгуку агаворваецца назначэнне і мэта кнігі.

2) Водгук аб кнігах трэба складаць у суадносінах са сваёй чытацкай узроставай катэгорыяй.

3) Трэба адзначыць, да якога жанру адносіцца твор, які вы апісваеце.

4) Вызначыце дынамічнасць развіцця сюжэта.

5) Калі кніга багата на апавядальную частку або на разважанні аб жыцці, то абавязкова адзначыце гэта ў водгуку.

6) Напішыце, ці ёсць у кнізе слэнг або незнаёмая лексіка.

7) Вызначыце, калі кніга адрозніваецца знешнім афармленнем.

8) Укажыце, калі кніга – працяг якой-небудзь гісторыі, рамана, серыі.

9) Абавязкова выкажыце свой асаблівы пункт гледжання аб прачытаным.

*Для даведкі!* **Разнавіднасці водгукаў:**

1. *Водгук-споведзь.* Адклікаючыся на прачытанае, падлетак расказвае пра сваё жыццё, дзеліцца сумненнямі, якія яго турбуюць, пытаецца вырашыць для сябе нейкія пытанні, на якія натхніла яго кніга.

2. Водгук-пытанне. Тут аўтар не столькі разважае, колькі шукае адказ у сваіх думках.

3. *Водгук-рэкамендацыя.* Аповед аб прачытаным адрасуецца патэнцыяльнаму чытачу, якога аўтар пытаецца заахвоціць кнігай.

4. *Водгук-дэталь.* Увага чытача ў кнізе прыкавана да дэталі, якая яму прадстаўляецца асаблівай, адкрывае яму нешта новае.

5. *Водгук-асацыяцыя.* Чытач пачынае сам тварыць, дапаўняць тэкст захапіўшай яго кнігі, сваімі асобнымі вобразамі або цэлымі сітуацыямі.

6. *Водгук-успамін.* Водгук аб кнізе, якая чыталася даўно, з успамінамі аб абставінах чытання, ураженнях і інш.

7. *Водгук-эмоцыя.* Характэрная асаблівасць — ярка выражаная захапляльная эмацыянальнасць.

## Частка 5. Гульня-віктарына «Францыск Скарына і яго час»

*Гульня-віктарына разлічана на вучняў 5–9 класаў, таму мы прапануем пытанні як для школьнікаў сярэдняга, так і старэйшага ўзростаў. Для гульні раім спачатку правесці занятак, на якім дзяцей патрэбна пазнаёміць з біяграфічнымі звесткамі аб Францыску Скарыне. У ходзе занятку можна выкарыстоўваць мультымедыйную прэзентацыю, у тым ліку і для дэманстрацыі заданняў.*

Паважаныя сябры, мы прапануем вам паўдзельнічаць сёння ў гістарычна-пазнавальнай віктарыне «Францыск Скарына і яго час». Для гульні вам прапануецца некалькі блокаў з заданнямі. Переможцам будзе вызначана тая каманда, якая зможа набраць як мага больш балаў. Удачы і перамогі ўсім!

| **Заданні для школьнікаў сярэдняга ўзросту** | **Заданні для школьнікаў старэйшага ўзросту** |
|---|---|
| **Блок 1.** Першы блок — самы просты. Вы пачуеце (убачыце на экране) пытанні і варыянты адказаў, вам патрэбна будзе выбраць правільныя сярод іх. За правільны адказ каманда атрымлівае — па 1 б. | |
| 1. На чым высякалі першыя літары?<br>а) на сцяне<br>б) на бервяне     <u>*в) на камні*</u><br><br>2. У якім горадзе нарадзіўся Францыск Скарына?<br>а) у Нясвіжы<br><u>*б) у Полацку*</u>     в) у Мінску | 1. Якое імя, па меркаваннях некаторых навукоўцаў, магло быць у Скарыны замест Францыска:<br>а) Грыгорый     г) Франц<br><u>*б) Георгій*</u>     д) Ігар<br>в) Фабрыцыус<br><br>2. Рэфармацыя – гэта:<br><u>*а) грамадска-палітычны, рэлігійны і*</u> |

<table>
<tr>
<td>3. У якой сям’і нарадзіўся наш першадрукар?<br>а) князя<br>б) купца в) настаўніка<br><br>4. Дзе вучыўся Францыск Скарына?<br>а) у Азіі<br>б) у Амерыцы в) у Еўропе<br><br>5. Якую прафесію ён атрымаў?<br>а) плотніка<br>б) доктара в) гандляра<br><br>6. У якую эпоху друкаваў свае кнігі Скарына?<br>а) Адраджэння<br>б) Абуджэння в) Аднаўлення<br><br>7. Як называлася першая кніга, надрукаваная Скарынай?<br>а) Псалтыр<br>б) Актоіх в) Буквар<br><br>8. Кнігі якой тэматыкі выдаваў Скарына?<br>а) медыцынскія<br>б) біблейскія в) п’есы</td>
<td>ідэалагічны рух у Заходняй і Цэнтральнай Еўропе XVI ст.<br>б) накірунак у беларускай літаратуры XVI ст.<br><br>3. Хто быў першым еўрапейскім друкаром, родам з Германіі:<br>а) Франсуа Рабле г) Іаган Гутэнберг<br>б) Францыск Скарына д) Эразм Ратэрдамскі<br>в) Іван Фёдараў<br><br>4. Францыск Скарына ўвайшоў у гісторыю беларускага народа як… (некалькі варыянтаў)<br>а) першадрукар г) пісьменнік<br>б) перакладчык д) мецэнат<br>в) рэлігійны дзеяч<br><br>5. У якім годзе Ф. Скарына надрукаваў першую кнігу?<br>а) 1480 г. в) 1512 г.<br>б) 1490 г. г) 1517 г.<br><br>6. Арыгінальнымі творамі першадрукара з’яўляюцца:<br>а) паэмы в) пасляслоўі<br>б) прадмовы г) пародыі<br>7. Колькі кніг Бібліі выдаў Ф. Скарына з 1517 па 1519 гг., калі жыў у Празе?<br>а) 50 в) 23<br>б) 20 г) 25<br><br>8. Якая дата лічыцца пачаткам беларускага кнігадрукавання?<br>а) 1 сакавіка 1564 г.<br>б) 6 лістапада 1455 г. в) 6 жніўня 1517 г.</td>
</tr>
<tr>
<td colspan="2">Блок 2. Наступнае заданне будзе больш цяжкае. За кожны правільны адказ тут можна зарабіць па 2 б.</td>
</tr>
<tr>
<td>Вам прапануецца перакласці словы на сучасную беларускую мову:<br>а) гудба — гудзенне, гранне;<br><br>б) приповесть — прымаўка;<br><br>в) покраса — упрыгажэнне, аздоба;<br><br>г) посполу — разам;<br><br>д) рекомый — сказаны, названы;<br><br>е) розмоитый — розны;<br><br>ё) противность — супярэчлівасць;</td>
<td>Патрэбна суаднесці адну калонку слоў з другой.<br>1. Суаднясіце паняцці левай калонкі з выразамі прадмовы да Бібліі Ф. Скарыны ў правай.
<table>
<tr>
<td>1) Эпітэт<br>2) Параўнанні<br>3) Метафара<br><br>1б, 2в, 3а</td>
<td>а) Сонца стаяла на адным месцы<br>б) Дзівосная рака<br>в) Святыя, нібы калясніца, нясуць на ўсе чатыры бакі свету святое імя Госпада</td>
</tr>
</table>
<br>2. Суаднясіце афіцыйныя назвы навук са скарынінскімі назвамі-сінонімамі, тлумачэннямі, якімі ён трапна паясняе кожную навуку.</td>
</tr>
</table>

<table>
<tr>
<td>ж) побитие — забойства;<br><br>з) агнец — ягня;<br><br>і) женяся — гонячыся</td>
<td>
<table>
<tr><td>1) Граматыка<br>2) Музыка<br>3) Астраномія<br>4) Геаметрыя<br>5) Рыторыка<br>6) Арыфметыка<br>7) Логіка<br><br>1ё, 2б, 3е, 4д, 5в, 6г, 7а</td><td>а) вучыць пры дапамозе аргументаў адрозніваць праўду ад хлусні<br>б) пеўніца<br>в) красамоўства<br>г) вучыць хутка і без памылак лічыць<br>д) землямеранне<br>е) зоркалічэнне<br>ё) вучыць грамаце</td></tr>
</table>
3. Устанавіце адпаведнасць «асоба — гады жыцця».
<table>
<tr><td>1) Ф. Скарына<br>2) С. Будны<br>3) В. Цяпінскі<br><br>1в, 2б, 3а</td><td>а) каля 1540 — да 1603<br>б) каля 1530 — 1593<br>в) каля 1490 — каля 1551</td></tr>
</table>
4. Суаднясіце даты і геаграфічныя паняцці, звязаныя з біяграфіяй Ф. Скарыны:
<table>
<tr><td>1) 1506 г.<br>2) 1490 г.<br>3) 1517 г.<br>4) 1512 г.<br>1б, 2а, 3г, 4в</td><td>а) Полацк<br>б) Кракаў<br>в) Падуя<br>г) Прага</td></tr>
</table>
</td>
</tr>
<tr><td colspan="2">Блок 3. Вам раздадуць кнігі, у якіх трэба хуценька знайсці старонкі, прысвечаныя Ф. Скарыне (па 1 кнізе кожнаму альбо групе максімум з 3-х вучняў). За кожную знойдзеную старонку — па 1 б.</td></tr>
<tr><td colspan="2">У ліку прадстаўленых кніг наступныя:<br>1) Зборнік «Нам засталася спадчына»<br>2) У. Ягоўдзік «Сем цудаў Беларусі»<br>3) Зборнік «Эўрыка» (Гісторыя. Адкрыцці. Знаходкі. Парады)<br>4) У. Арлоў, Г. Сагановіч «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі»<br>5) У. Арлоў «Адкуль наш род»<br>6) К. Тарасаў «Гістарычнае падарожжа для дзяцей»<br>7) У. Бутрамееў «Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі»</td></tr>
<tr><td colspan="2">Блок 4. Тут вы можаце зарабіць па 2 б. за кожны правільны адказ.</td></tr>
<tr>
<td>Вашай увазе прапануецца конкурс «Прыказкі». Неабходна сабраць часткі прыказак правільна.<br>1) Век жыві, | век вучыся.<br>2) Чалавек невучоны, | як тапор нетачоны.<br>3) Вучыцца ніколі | не позна.<br>4) Навуку за плячамі | не насіць.<br>5) Ад навукі | дужэюць рукі.<br>6) Да чаго не дойдзеш, | тое ў кніжцы знойдзеш.</td>
<td>Біблія ўзбагаціла ўсе мовы свету фразеалагізмамі, афарызмамі. Растлумачце, калі ласка, сэнс прапанаваных вам выразаў<br>1) Несці крыж — цярпліва пераносіць жыццёвыя цяжкасці, выпрабаванні.<br>2) Узысці на Галгофу — здзейсніць подзвіг, паахвяраваць сабой, прыняць пакуты за іншых.<br>3) Унесці лепту — зрабіць свой пасільны ўклад у нейкую важную справу, паахвяраваць дзеля яе апошнім, што маеш.<br>4) Кесару — кесарава, а Богу — Божае —</td>
</tr>
</table>

| | |
|---|---|
| 7) Хто без навукі, │ той — як безрукі.<br>8) Навука не мучыць, │ а жыць вучыць. | *кожнаму належнае, тое, чаго заслужыў.*<br>5) Садом і Гамора — *крайняе бязладдзе, поўная неразбярыха, сумятня, беспарадак.*<br>6) Вавілонскае стаўпатварэнне — *тое ж, што і Садом і Гамора.*<br>7) Манна нябесная — *каму-небудзь вельмі лёгка, быццам само сабой дастаюцца сродкі для пражыцця, набытак; што-небудзь вельмі патрэбнае, доўгачаканае.*<br>8) Соль зямлі — *самае важнае, галоўнае, найлепшае.* |
| **Блок 5.** І напрыканцы паможа выправіць становішча адстаючай каманды наша бліц-віктарына. Галоўнае — быць вельмі хуткім пры адказе. За кожны правільны адказ каманда атрымлівае па 1 б. | |
| 1. Што можна назваць машынай часу, якая здольная перанесці ў мінулае і ў будучыню, у любую частку зямнога шара, пазнаёміць з іншымі людзьмі? *(Кніга)*<br>2. Назва згорнутага трубкай рукапісу на папірусе, папярэдніка кнігі. *(Світак)*<br>3. Як звалі двух братоў, якія стварылі славянскую азбуку? *(Кірыл і Мяфодзій)*<br>4. У якой краіне вынайшлі паперу? *(Кітай)*<br>5. Кару якога дрэва выкарыстоўвалі на Русі для пісьма? *(Кару бярозы – бяросту)*<br>6. Хто быў беларускім першадрукаром? *(Францыск Скарына)*<br>7. Які горад даў назву матэрыялу для пісьма? *(Пергам)*<br>8. Як называецца першая славянская азбука? *(Кірыліца)*<br>9. Як звалі вынаходніка друкарскага станка ў Еўропе? *(Іаган Гутэнберг)*<br>10. Назва кнігі ў старажытным Рыме, гэтае слова таксама азначае «звод законаў». *(Кодэкс)*<br>11. Лісце якога дрэва выкарыстоўвалі для пісьма ў старажытнай Індыі? *(Пальмы)*<br>12. Аматара і збіральніка рэдкіх і каштоўных кніг называюць... *(Бібліяфіл)*<br>13. Кароткі выклад зместу кнігі? *(Анатацыя)*<br>14. Першы вучэбны дапаможнік для навучання грамаце «Наука ку читаню и розуменю писма словенскаго» Лаўрэнцій Зізаній надрукаваў у 1596 г. Зараз гэтай кнігай карыстаюцца ўсе першакласнікі. *(Буквар)*<br>15. Як называецца пералік усіх друкаваных выданняў, наяўных у бібліятэцы? *(Каталог)*<br>16. Бібліятэку якога рускага цара шукаюць да гэтага часу? *(Івана Гроззнага)*<br>17. Як называецца кніга, якая мае асаблівы камерцыйны поспех, карыстаецца павышаным попытам? *(Бестселер)*<br>18. Як называюцца серыі малюнкаў, якія суправаджаюцца кароткім тэкстам-каментарыям (упершыню яны з'явіліся ў ЗША)? *(Коміксы)* | |

*Пытанні таксама прадстаўлены ў выглядзе дзвюх мультымедыйных прэзентацый на кампакт-дыску (для сярэдняга і для старэйшага школьнага ўзростаў асобна).*

## Частка 6. «Гравюры першадрукара»: віртуальная выстава (прадстаўлена на кампакт-дыску)

Жыццё Скарыны — подзвіг. Ён прысвяціў яго адзінай мэце — «чинити добрыя дела и в них богатитеся», «оставиши в науце и в книгах вечную память и славу свою». Дзейнасць Скарыны пачалася ўжо пасля таго, як друкарскі станок, вынайдзены Іаганам Гутэнбергам, стварыў умовы для бурнага развіцця мастацкай графікі і асабліва кніжнай ксілаграфіі. Гравюра прыйшла на змену дарагім мініяцюрам, якія раней упрыгожвалі рукапісныя кнігі. Таму ў гэты перыяд самым масавым відам выяўленчага мастацтва становіцца эстамп.

Звесткі пра тое, якія сувязі і адносіны былі ў Скарыны з рамеснікамі-разьбярамі, да нас не дайшлі. Але вядома, што беларускі асветнік быў надзвычай патрабавальным да сябе. І калі б ён звяртаўся за дапамогай да мясцовых разьбяроў-выканаўцаў, то абавязкова б адзначыў гэта, як адзначаў усіх, хто ўдзельнічаў у стварэнні яго кніг. Таму ёсць усе падставы сцвярджаць, што Ф. Скарына быў адзіным аўтарам усіх гравюр і заставак, змешчаных у яго кнігах. Амаль кожная з іх і нават некаторыя буквіцы адзначаныя асабістай манаграмай Скарыны. Манаграма Скарыны мае выгляд герба, які складаецца з малюнкаў месяца і сонца.

У канцы XV ст. у еўрапейскіх краінах друкаваная кніга стала ўжо масавай з'явай. На беларускай жа зямлі кніга была яшчэ рэдкасцю. Скарына добра разумеў, што ліквідаваць адсталасць ад Еўропы магчыма толькі шляхам адукацыі народа. І ён прысвяціў сваё жыццё гэтай высакароднай мэце. А каб кнігі хутчэй дайшлі да сэрца чытача, Скарына выдае іх на зразумелай народу мове.

У пачатку XVI ст. кніжная графіка толькі-толькі пачала развівацца. І Скарына ўносіць свой уклад у справу афармлення кніг. Кожнае яго выданне вызначаецца самастойнасцю. Беларускі асветнік надае гравюрам непаўторны каларыт, яркую мастацкую выразнасць. У прадмовах да кніг ён неаднаразова падкрэслівае, што мастацкае афармленне павінна дапамагаць лепш успрымаць тэкст — «ктобы пак межи простыми людми братии моей хотел яснее разумети, яковым обычаем был храм суделан, кивот, стол, светильник, требник и ризы жреческие, тое все вымалеваное нижей знойдеть».

Віртуальная выстава — гэта спроба сістэматызаваць і часткова прааналізаваць выяўленчую творчасць вялікага беларускага асветніка. Тут прадстаўлены ўсе графічныя работы з дайшоўшых да нас кніг Скарыны, якія знаходзяцца ў розных бібліятэках свету. Творчыя працы аўтара згрупаваны па асобных раздзелах, прыводзяцца прыкладныя гравюры, застаўкі, віньеткі, загалоўныя літары.

### Выкарыстаныя крыніцы


**1.** Аўсіевіч, М. Ц. Урокі Францыска Скарыны і сучаснасць / М. Ц. Аўсіевіч, І. М. Слесарава // Гісторыя і грамадазнаўства. – 2015. – № 10. – С. 61–64. – (Серыя «У дапамогу педагогу»).

**2.** Батура, Т. А. Святло друкаванага слова : гульня-падарожжа для вучняў 5–7 класаў / Т. А. Батура // Беларуская мова і літаратура. – 2015. – № 8. – С. 50–54. – (Серыя «У дапамогу педагогу»).

**3.** Вараньков, К. Д. Да 525-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны (1490? – 1551?) / К. Д. Вараньков // Адукацыя і выхаванне. – 2015. – № 9. – С. 72–75.

**4.** Галенчанка, Г. Я. Францыск Скарына – беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар / Г. Я. Галенчанка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1993. – 280 с.

**5.** Гісторыя беларускай кнігі. У 2 т. Т. 1. Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М. В. Нікалаеў ; навук. рэд.: В. В. Антонаў, А. І. Мальдзіс. – Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2009. – 424 с. : іл.

**6.** Гравюры Францыска Скарыны / рэд. І. Крымава. – Мінск : Беларусь, 1972.

**7.** Казбярук, У. Францішак Скарына : навукова-папулярны нарыс / Уладзімір Казбярук – Мінск : Мастацкая літаратура, 2003. – 174 с.

**8.** Клышка, А. Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга : [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Анатоль Клышка. – Мінск : Юнацтва, 1983. – 126, [1] с. (*і іншыя перавыданні*).

**9.** Лабынцаў, Ю. Скарынаўскі каляндар / Юрый Лабынцаў. – Мінск : Мастацкая літаратура, 1988. – 118 с.

**10.** Літаратурная карта Берасцейшчыны / рэд. і ўклад. А. Крэйдзіч ; рэд. савет.: Л. А. Цупрык (старш.) і інш. ; Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы Брэсцкага аблвыканкама. – Брэст : Брэсцкая друкарня, 2008. – 567 с.

**11.** Скорина, Ф. Из «Книги стихов» / Франциск Скорина ; сост. и со старобелорусского языка перевоссоздал Алесь Рязанов ; вступ. Олега Лойко // Нёман. – 1994. – № 6 (июнь). – С. 14–19.

**12.** Мотульский, Р. С. Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси. В 2 ч. Ч. 1 / Р. С. Мотульский. – Минск : БелЭн. – 2011. – 254 с.

**13.** Падарожная кніжка Скарыны : зборнік, прысвечаны 500-годдзю беларускага першадрукара / уклад.: С. Панізнік, В. Дышыневіч. – Мінск : Юнацтва, 1990. – 326 с.

**14.** Салавейка, Т. Я. «Сем цудаў Беларусі» : пазакласнае мерапрыемства для вучняў 5–7 класаў / Т. Я. Салавейка // Гісторыя і грамадазнаўства. – 2014. – № 10. – С. 47–51. – (Серыя «У дапамогу педагогу»).

**15.** Сідаровіч, Л. Славутыя імёны Полацка / Л. Сідаровіч // Роднае слова. – 2010. – № 9. – С. 95–96.

**16.** Скарына, Ф. Прадмовы і пасляслоўі / Францыск Скарына ; рэд. В. В. Барысенка. – Мінск : Навука і тэхніка, 1969. – 240 с.

**17.** Старажытная беларуская літаратура : зборнік / уклад.: Л. С. Курбека, У. А. Марук. – Мінск : Юнацтва, 2002. – 509 с.

**18.** Суша, А. А. 500-годдзе беларускага кнігадрукавання як фактар развіцця айчыннай культуры / А. А. Суша // Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. – 2015. – № 2. – С. 165–173.

**19.** Суша, А. А. Францыск Скарына : для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту : у 3 ч. / Алесь Суша. – Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2016. – (Беларуская дзіцячая энцыклапедыя).

Ч. 1 : Чалавек-энцыклапедыя. – 120 с. : іл.

Ч. 2 : Чалавек свету. – 128 с. : іл.

**20.** Франциск Скорина и его время : энциклопедический справочник / редкол.: И. П. Шамякин [и др.]. – Минск : Белорусская советская энциклопедия, 1990. – 631 с.

**21.** Францыск Скарына і яго час : энцыклапедычны даведнік / [рэдкалегія: І. П. Шамякін (гал. рэд.) і інш.]. – Мінск : Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, 1988. – 607, [1] с.

**22.** Францыск Скарына на мовах народаў свету / уклад., пасляслоўе А. Карлюкевіча ; прадм. А. Сушы. – Мінск : Звязда, 2014. – 136 с.

*Інтэрнэт-рэсурсы*

**1.** Гравюры, ініцыялы, застаўкі і віньеткі з выданняў Францішка Скарыны [Электронны рэсурс] // История Беларуси IX–XVIII веков. Первоисточники. – URL: http://starbel.narod.ru/graviury/gal.htm (дата звароту: 04.10.2016).

**2.** Корбут, В. Франциск и Маргарита [Электронный ресурс] / Виктор Корбут // Советская Белоруссия. – URL: http://www.sb.by/vilnius-vilnya/article/frantsisk-i-margarita.html (дата обращения: 04.10.2016).
**3.** Мальдис, А. Франциск Скорина: бесспорное и спорное [Электронный ресурс] / Адам Мальдис // Советская Белоруссия. – URL: http://www.sb.by/kultura/article/frantsisk-skorina.html (дата обращения: 25.09.2016).
**4.** Мальдис, А. «Тайны приоткрываются» [Электронный ресурс] / Адам Мальдис // Советская Белоруссия. – URL: http://www.sb.by/kultura/article/tayny-priotkryvayutsya.html (дата обращения: 04.10.2016).
**5.** Песня песняў [Электронны рэсурс] // Сведкі часу. – URL: http://www.jurnal.by/list/2269/pesnia_piszou.html (дата звароту: 17.08.2016).
**6.** Скорины («100 знаменитых фамилий Беларуси») [Электронный ресурс] // Юридическая консультация в Беларуси. – URL: http://www.bel-jurist.com/page/skoryny (дата обращения: 04.10.2016).
**7.** Франциск Скорина: бесспорное и спорное [Электронный ресурс] / Адам Мальдис // Советская Белоруссия. – URL: http://www.sb.by/kultura/article/frantsisk-skorina-2.html (дата обращения: 09.09.2016).

## Дадатак 1. Табліца-паралель

Паслядоўнікі Скарыны ўзносілі ў сваёй дзейнасці любоў да радзімы, роднай мовы, да кнігі, верацярпімасць, абарону сваёй айчыны, грамадска-карысную працу ў імя любові да бліжняга і служэння айчыне. С. Будны і В. Цяпінскі — часцінка нашай няпростай, але слаўнай і багатай гісторыі. Ведаць яе — узбагачацца самім.

| | **Францыск Скарына (каля 1490 – каля 1551)** | **Сымон Будны (каля 1530 – 1593)** | **Васіль Цяпінскі (каля 1540 – 1603)** |
|---|---|---|---|
| **Паходжанне і месца нараджэння** | Нарадзіўся ў сям'і купца «сярэдняй рукі» Лукі ў Полацку | Нарадзіўся ў сям'і дробнага шляхціца ў в. Буды ў Мазовіі (Польшча) | Нарадзіўся ў сям'і гаспадарскага баярына Мікалая Амельяновіча ў маёнтку Цяпіна пад Полацкам (цяпер Чашніцкі раён) |
| **Адукацыя і месца яе набыцця** | Кракаўскі ўніверсітэт, Падуанскі ўніверсітэт | Скончыў факультэт вольных мастацтваў Кракаўскага ўніверсітэта, а потым, магчыма, тэалагічны факультэт Базельскага ўніверсітэта | Звестак няма |
| **Род заняткаў і сфера дзейнасці** | Першадрукар, кнігавыдавец, філосаф, пісьменнік, перакладчык, мовазнавец і літаратурны крытык, лексікограф, паэт, публіцыст, лекар, батанік | Рэлігійны рэфарматар, кнігавыдавец, пісьменнік, перакладчык, публіцыст, асветнік, выкладаў на беларускай мове катэхізіс у пратэстанцкай школе ў Вільні; быў кальвініcцкім прапаведнікам у Клецку і Нясвіжы | Рэлігійны рэфарматар, асветнік, пісьменнік, кнігавыдавец, лексікограф, публіцыст, перакладчык, малодшы афіцэр, удзельнік Лівонскай вайны |
| **Перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць** | 23 кнігі Біблії ў Празе і Вільні | «Катэхізіс» у Нясвіжы, пераклад Новага і Старога запаветаў у Лоску (Валожынскі раён), выдаў многія ўласныя творы | Евангелле ад Матфея, Марка і часткова ад Лукі. Упершыню падаў паралельна два тэксты – на царкоўнаславянскай і беларускай мовах |
| **Літаратурная дзейнасць** | Прадмовы і пасляслоўі да ўсіх выдадзеных кніг Біблії | Каля 25 кніг, напісаных на розных мовах – лацінскай, польскай, беларускай. Да прыкладу, «Пра свецкую ўладу» | Прадмова да «Евангелля» |
| **Лексіграфічны аспект дзейнасці** | Каментарыі, глосы, тлумачэнні слоў і выразаў. Да прыкладу, на палях «Псалтыра» – звыш 60 глосаў | | Ва ўцалелай частцы «Евангелля» – 210 глосаў і спасылак на адпаведныя крыніцы. Часам тлумачыў словы не толькі сказамі, а |

| | | | |
|---|---|---|---|
| | | | цэлымі артыкуламі |
| **Прыналежнасць да канфесіі** | Дакладна не вызначана | Кальвініст-антытрынітарый | Кальвініст-антытрынітарый |
| **Асноўныя пастулаты светапогляду** | 1. «Да совѣршен будеть человѣк Божий и на всяко дѣло добро уготован!»<br>2. «Библия… Богу ко чти… и людем посполитым к доброму научению»<br>3. Біблія – крыніца ўсіх навук<br>4. Гуманіст, асветнік, патрыёт, прапаведнік міру і згоды, верацярпімасці, любові да бліжняга – «закона прироженого» | 1. Асветнік, прапаведнік Рэфармацыі<br>2. Уздымаў свой голас у абарону нацыянальных традыцый і роднай мовы<br>3. «Я прызнаю ўладу і асуджаю беспарадак…» Выступаў за дэмакратычную справядлівую ўладу, заклікаў да верацярпімасці; асуджаў захопніцкія войны<br>4. Лічыў Біблію крыніцай веры, дастатковай для ўзаемаадносін чалавека з Богам | 1. Асветнік, патрыёт, гуманіст<br>2 «Кнігу ў свет выпускаю з патрэбы пільнай…»<br>3. Адстойваў права беларускага народа на адукацыю, асвету на роднай мове<br>4. «Зъ зычливости к моей отчизне» і роднай мовы – матыў яго дзейнасці<br>5. Горача выступаў супраць асімілятарскай палітыкі польскіх феадалаў; падвяргаў крытыцы палітыку акаталічвання беларускага народа |

## Дадатак 2. Кнігазборы манастыроў

У канцы XVII і на працягу XVIII ст. колькасць выдадзеных у ВКЛ і прывезеных кніг, у параўнанні з папярэднімі эпохамі, значна пабольшала. Яны размяркоўваліся галоўным чынам у бібліятэках, дзе з іх ствараліся новыя кнігазборы і папаўняліся тыя, што ўжо існавалі. Даследаванні гісторыі навучальных ці дзяржаўных устаноў і манаскіх ордэнаў часта ўпамінаюць пра іх бібліятэкі. Застаецца пакуль яшчэ не да канца зразумелым, наколькі кнігі, што належалі да маёмасці невялікіх прыходскіх цэркваў, задавальнялі патрэбы ў чытанні богаслужбы і пісьменных прыхаджан; якая была роля кнігазбору прыходскага свяшчэнніка (ён жа, звычайна, быў і настаўнікам для малых дзяцей). Асаблівасцю гэтага перыяду кніжнасці ВКЛ стала істотнае павелічэнне колькасці прыватных бібліятэк — фінансавыя магчымасці дазвалялі зрабіць кнігу прадметам бібліяфільства не толькі багацейшым магнатам, але і сярэдняй і нават дробнай шляхце, гараджанам, дробнаму духавенству. У сувязі з гэтым асаблівую вартасць зараз маюць даследаванні, мэтай якіх з’яўляецца пошук інвентароў кнігазбораў.

| **Ордэн** | **Населены пункт** | **Колькасць кніг** |
|---|---|---|
| **Аўгусцінцы** | Брэст Літоўскі | 161/1201 |
| **Бенедыкцінцы** | Нясвіж | 1036 |
| | Старыя Трокі | 276/1521 |
| **Бернардзінцы** | Валожын | 100 |
| | Вільня | 7000 |
| | Гродна | 400/2000 |
| | Заслаў | 5000 |
| | Іўе | 500 |
| | Нясвіж | 1000 |
| | Слонім | 1000/2000 |
| | Трокі | 276 |
| **Баніфраты** | Гродна | 44 |
| | Наваградак | 12 |
| | Высокае Літоўскае | 67 |
| **Дамініканцы** | Веркі | 243 |
| | Вільня | 3480/5317 |
| | Гродна | 15000 |
| | Дзярэчын | 1143 |
| | Забелы | 3000 |
| | Наваградак | 500 |
| | Папорцы | 1072 |
| **Францысканцы** | Альшаны | 510 |
| | Вільня | 2186/3358 |
| | Гродна | 500 |
| | Мінск | 400 |
| | Наваградак | 100 |
| | Паставы | 250 |
| | Свіслач | 889 |
| | Пінск | 700 |
| **Езуіты** | Брэст Літоўскі | 1366 |
| | Бабруйск | 500 |
| | Гродна | 2373 |
| | Кодэнь | 1130 |
| | Наваградак | 982 |
| | Пінск | 1000 |
| | Полацк | 20000 |

| | | |
|---|---|---|
| | Слуцк<br>Ужвалда | 2995<br>2200 |
| **Канонікі рэгулярныя латэранскія** | Вільня | 2819 |
| **Кармеліты босыя** | Вільня<br>Глыбокае<br>Гродна<br>Мядзел<br>Жалудок | 4000<br>3000<br>526<br>500<br>160 |
| **Картэзіянцы** | Бяроза | 1500 |
| **Місіянеры** | Вільня<br>Заслаўе<br>Краслаў<br>Тыкоцін | 6694/8284<br>860<br>1500<br>1500 |
| **Піяры** | Вільня<br>Дуброўна<br>Ліда<br>Панявеж<br>Шчучын | 4014/7000<br>2000<br>800<br>221<br>2000/2751 |
| **Трынітарыі** | Вільня<br>Маладзечна<br>Орша | 4060<br>1086<br>970 |

**Дадатак 3. Друкарні і друкары ВКЛ**

Для грамадзян ВКЛ кнігадрукаванне не стала рэвалюцыяй. Людзі спакойна прынялі кнігі, што сыходзілі з друкарскага варштата, у тым ліку богаслужбовыя. Друкарства з'явілася і распаўсюдзілася даволі хутка. У першай чвэрці XVI ст. кнігадрукаванне пачалося ў сталіцы ВКЛ — Вільні. Усяго за час існавання ВКЛ у ім дзейнічалі не менш 36 друкарняў, якія сваю прадукцыю прызначалі як для ўсёй дзяржавы і грамадства, так і для асобных, розных паводле веравызнання груп насельніцтва. Праца кожнай была звязана з адной, альбо некалькімі, альбо многімі выдатнымі асобамі – друкарамі, мастакамі-гравёрамі, аўтарамі-пісьменнікамі.

| **Населены пункт** | **Друкар (уладальнік друкарні – у дужках)** | **Час існавання друкарні** |
|---|---|---|
| **Вільня** | Францыск Скарына | 1522–1525 |
| **Брэст** | Бернгард Ваяводка (Мікалай Радзівіл Чорны) | 1543–1544; 1558–1570 |
| **Нясвіж** | Сымон Будны (Мацей Кавячынскі) | 1562 |
| **Заблудаў** | І. Фёдараў, П. Мсціславец (Рыгор Хадкевіч) | 1568–1570 |
| **Заслаўе** | Сымон Будны (Гектар і Альбрэхт Кавячынскія) | 1572 |
| **Лоск** | Даніэль Ленчыцкі, Ян Карцан (Ян Кішка) | 1572–1589 |
| **Вільня** | Пётр Мсціславец (Мамонічы) | 1575–1576 |
| **Цяпіна** | Васіль Цяпінскі | 1570-я |
| **Вільня** | Ян і Іосіф Карцаны | 1580–1620 |
| **Вільня** | (Мікалай Радзівіл Сіротка) | 1576–1589 |
| **Вільня** | Міхал Гарабурда (Мамонічы) | 1580–1582 |
| **Вільня** | Мамонічы | 1583–1624 |
| **Вільня** | Якуб Марковіч | 1592–1621 |
| **Вільня** | (акадэмія) | 1592–1805 |
| **Вільня** | Даніэль Ленчыцкі | 1594–1600 |
| **Вільня** | (брацкая) | 1595–1705 |
| **Вільня** | Саламон Сультжэр | 1596–1603 |
| **Вільня** | Васіль Малахвеевіч, Станіслаў Вярэйскі (Мельхіёр Пяткевіч) | 1598 |
| **Еўе** | Гаўрыіл Іаанавіч (брацтва) | 1611–1645 |
| **Вільня** | Пётр Бластус Кміта | 1611–1612 |
| **Любча** | Пётр Бластус Кміта | 1612–1656 |
| **Ашмяны** | | 1615 |
| **Вільня** | (Троіцкая) | 1628–1800 |
| **Куцейна** | (брацтва) | 1631–1632 |
| **Магілёў** | Спірыдон Собаль (брацтва) | 1636–1638 (1693–1771) |
| **Буйнічы** | Спірыдон Собаль (манастыр Св. Духа) | 1636–1654 |
| **Пяршаі** | | 1645 |
| **Кейданы** | Іахім Ротэ (Януш Радзівіл) | 1651–1655 |

**Дадатак 4. Скарына на мовах народаў свету**

Прадмова да «Кнігі Юдзіф»

| | |
|---|---|
| ***Старабеларуская мова***<br>Понеже<br>от прирожения звери, ходящия в пустыни,<br>знають ямы своя,<br>птици, летающие по возъдуху,<br>ведають гнезда своя;<br>рибы, плывающие по морю и в реках,<br>чують виры своя;<br>пчелы и тым подобная боронять ульев своих,<br>тако ж и люди,<br>и где зродилися<br>и ускормлены суть по бозе,<br>к тому месту великую ласку имають. | ***Беларуская мова***<br>Як звяры,<br>што блукаюць у пушчы,<br>ад нараджэння<br>ведаюць сховы свае,<br>як птушкі,<br>што лётаюць у паветры,<br>помняць<br>гнёзды свае,<br>як рыбы,<br>што плаваюць у моры і ў рэках,<br>чуюць<br>віры свае<br>і як пчолы<br>бароняць вуллі свае –<br>гэтак і людзі<br>да месца, дзе нарадзіліся<br>і ўзгадаваны ў Бозе,<br>вялікую ласку маюць.<br>*Пераклад на беларускую мову Алеся Разанава* |
| ***Руская мова***<br>Как звери,<br>что в пуще блуждают,<br>от рождения ведают норы свои,<br>как птицы,<br>что в небе летают,<br>вьют и помнят гнезда свои,<br>как рыбы<br>в море и реках,<br>не забывают истоки свои,<br>как пчелы<br>обороняют<br>ульи, колоды и дупла свои,<br>так и люди<br>то место, где на свет явились и вскормлены были,<br>великой любовью любят.<br>*Пераклад на рускую мову Уладзіміра Беразева* | ***Англійская мова***<br>Be their nature<br>beasts wandering in deserts<br>know their lairs;<br>birds flying in the air<br>know their nests;<br>fish swimming in the sea and rivers<br>remember their origins;<br>bees and insects similar to them defending their hives<br>do not forget them;<br>so do human beings<br>remembering the places where they were born and raised<br>and are attached to those places deeply.<br>*Пераклад на англійскую мову* |
| ***Нямецкая мова***<br>Wie die Tiere,<br>die im Dickicht herumstreifen,<br>von Geburt an<br>ihre Waldverstecke kennen,<br>wie die Vögel,<br>die durch die Lüfte fliegen<br>und zu ihren Nestern<br>zurückkommen,<br>wie die Fische,<br>die in den Meeren und Flüssen schwimmen,<br>ihre Quelle<br>wiederfinden, | ***Польская мова***<br>Od przyrodzenia zwierzęta, chodzace po pustyni, znają doły swoje; ptaki, latające w powietrzu, znają gniazda swoje; ryby, pływające w morzu i rzekach, czują głębiny swoje; pszczoły i im podobne bronią uli swoich, — tak i ludzie, gdzie się wrodzili i wychowani byli po Bożemu, to do tego miejsca zamiłowanie wielkie mają.<br>*Пераклад на польскую мову Анатоля Клышкі* |

| | |
|---|---|
| und wie die Bienen,<br>die ihre Bienenstöcke<br>schützen —<br>so auch die Menschen,<br>sie empfinden eine unendliche Liebe<br>zu dem Ort, an welchem sie geboren<br>und im Glauben an Gott erzogen sind.<br>*Пераклад на нямецкую мову Аляксандра Філюты* | |
| ***Украінская мова***<br>Як звірі,<br>що блукають у пущі,<br>від народження<br>відають схови свої,<br>як птиці,<br>що літають у повітрі<br>й тямлять гнізда свої,<br>як риби,<br>що плавають у морі і в ріках<br>і чують джерела свої,<br>і як бджоли<br>боронять ульні свої,<br>оттак і люди —<br>до місця, де народилися<br>й уповають на Бога,<br>великую ласку мають.<br>*Пераклад на ўкраінскую мову Тараса Лучука* | ***Чэшская мова***<br>Jako zvířata,<br>která se toulají v pralesích,<br>od narození<br>znají svá útočiště,<br>jako si ptáci<br>létající v povětří<br>pamatují<br>svá hnízda,<br>jako ryby<br>plovoucí v mořích a řekách<br>vnímají<br>své prameny<br>a jako včely<br>brání své úly —<br>tak i lidé<br>k místu, kde se narodili<br>a byli vychováni v bázni Boží,<br>chovají velkou lásku.<br>*Пераклад на чэшскую мову Мілана Храбала* |

*Гісторыя беларускай кнігі. У 2 т. Т. 1. Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М. В. Нікалаеў ; навук. рэд.: В. В. Антонаў, А. І. Мальдзіс. – Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2009. – 424 с. : іл. С. 171–172 ; 376–385.*